ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 22 (2372) 2 чэрвеня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 100 рублёў.

## УСЁ ПАВІННА РАБІЦЦА ПАД СЦЯГАМ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ

### ГУТАРКА З ВІЦЭ-ПРЭЗІДЭНТАМ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ Радзімам ГАРЭЦКІМ

**Сцвярджэнне, што жыццё наша сёння цяжкае, ужо, здаецца, успрымаецца амаль ці не як аксіёма. Складваецца ўражанне, што людзі да гэтага нават прызвычаіліся і не ўяўляюць іншага для сябе ладу: лёгкага, зручнага. Хаця іншым разам на заводах і спрабуюць мітынгаваць, а то і папалохаць начальства забастоўкай: глядзіш, да зарплаты нешта і дабавяць. Тыя ж, хто працуе ў культуры, навуцы, звычайна маўчаць, можа таму, што іхні заробак і ў лепшыя часы быў жабрацкім. І тады ў СССР на гэтых людзей распаўсюджваўся так званы астаткавы прынцып сацыялістычнага размеркавання. Ну, а што цяпер? Як сёння адчуваюць сябе шматлікія (а можа ўжо нешматлікія?) кандыдаты і дактары навук? Як ім жывецца? Не бастуюць жа. Усім задаволены? Пра гэта мы і гутарым з віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі, акадэмікам Радзімам ГАРЭЦКІМ. Але размова нечакана пачалася з пытання, здавалася б, "не па тэме". Радзім Гаўрылавіч толькі вярнуўся з пасяджэння Прэзідыума Вярхоўнага Савета, і эмоцыі, выкліканыя той работай, яшчэ, відаць, не ўлягліся:**

-- Разглядалася пытанне выканання Закона аб мовах. Ніл Гілевіч дакладваў пра стан спраў. Але мяне здзівілі некаторыя іншыя выступленні. Напрыклад, Барыса Савіцкага з парламенцкай камісіі па экалогіі. Ён гаварыў, што беларуская мова сёння недасканалая, многія яе палажэнні пераглядаюцца, таму ён размаўляе па-руску. Ці дэпутат Дзмітрый Булахаў. Аказваецца, умее размаўляць па-беларуску, а не робіць гэтага таму, што, маўляў, сёння беларускі правапіс не ўсталяваўся. Атрымліваецца -- мова вінаватая, што на ёй дэпутаты не размаўляюць, пакуль іх нявартая.

Але ж давайце вернемся да вашых пытанняў.

**-- Радзім Гаўрылавіч, мяне, шчыра кажучы, здзівіла інфармацыя пра тое, што Акадэмія навук адпраўляецца ў незапланаваны двухтыднёвы водпуск. Калі гэта адбываецца на заводах, тут усё зразумела: няма сыравіны або збыту прадукцыі. А што здарылася ў АН? Арганізацыя ж бюджэтная: няхай тры капейкі, але ж павінны плаціць спраўна!**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ЖЫРОВІЧЫ -- СІМВАЛ ПРАВАСЛАЎЯ НА БЕЛАРУСІ



**Хай сабе і марудна, праз церні нявер'я і абыякавасці, але прабіваецца ісціна: беларусы мелі і маюць сваю духоўнасць, свае сімвалы веры, свае святыя месцы. Для католікаў -- гэта да апошняга часу забытае мястэчка Будслаў са слынным касцёлам і цудатворным абразам Маці Божай Будслаўскай. Для праваслаўных -- Жыровічы. Месца, дзе 500 гадоў назад з'явілася цудатворная ікона Маці Божай.**

**У апошнія дзесяцігоддзі савецкай улады, калі была зачынена там духоўная семінарыя і манастыр, Жыровічы ведалі ў нас, бадай, толькі як "кузню сельскагаспадарчых кадраў", -- там было размешчана вучылішча механізатараў.**

**Сёння Жыровічы адраджаюцца і становяцца той Мекай для Беларусі, якой ім наканавана быць гісторыяй і воляй Божай.**

**20--22 мая там адбылося вялікае свята: урачыстасці з нагоды 500-годдзя з'яўлення Жыровіцкай іконы Божай Маці і 500-годдзя заснавання Жыровіцкага манастыра.**

**У святкаванні прыняў удзел Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі.**

**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: вынас Жыровіцкай іконы Маці Божай і хросны ход.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

## *З ЛЮБОЎЮ ЖЫВЕ І ВЫХОДЗІЦЬ НА СЦЭНУ Стэфанія СТАНЮТА*

## ДА "РАЗВІТАННЯ" І ПАСЛЯ



У Нацыянальным Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы прайшоў бенефіс Стэфаніі Станюты, прысвечаны 75-годдзю яе тэатральнай дзейнасці. Давалі спектакль "Гаральд і Мод".

Для некалькіх пакаленняў гледачоў і акцёраў сустрэча з прыгожым, сапраўдным мастацтвам пачыналася са спектакля з гэтай дзівоснай актрысай.

Захапленне жыццём ва ўсіх яго праявах -- вось у чым сэнс творчасці гэтай узнёслай, незвычайнай жанчыны і артысткі, адной са стваральніц і сведкаў гісторыі беларускага тэатра. Ад першых крокаў маладых і таленавітых пасланцоў Беларусі ў Маскву, дзе выкладалі майстры МХАТа, да створаных на сучаснай сцэне пранікнёных вобразаў у творах пачаткоўцаў і ўжо прызнаных драматургаў. На сцэне і ў кіно, на тэлебачанні і на радыё.

Дзеля чаго выходзіла яна на тэатральныя падмосткі?

-- Калі мы займаліся ў студыі ў Маскве, вельмі шмат слухалі і глядзелі: спектаклі розных тэатраў і студый, рэжысёраў і акцёраў -- Таіраў, Меерхольд, Галейзоўскі, вечары паэзіі. Мы дыхалі паветрам творчасці. На ўсё жыццё запомніла, бо, пэўна, тады ўпершыню пачула, і засталося ўва мне на ўсё жыццё, дзе б ні была, што б ні рабіла. Аднойчы ў сваім выступленні Міхаіл Чэхаў сказаў: "У кожнай сваёй ролі, у кожнай рабоце, каго б ні іграў -- добрага ці злога, пераможцу ці ахвяру, я пасылаю ў глядзельную залу часцінку сваёй любові да людзей і да сваёй прафесіі".

З гэтай думкай жыла і выходзіла на сцэну.

Памятаю, як у лістах, што пісала з Масквы дадому, дзякавала бацьку (а ён быў мастаком) за тое, што навучыў бачыць прыгожае і здзіўляцца таму новаму, што адкрывае жыццё.

У пачатку 30-х гадоў яна прыйшла ў тэатр імя Янкі Купалы. І побач з Платонавым і Крыловічам, Зоравым і Ржэцкай, Дзядзюшкам і Ждановіч, Уладамірскім і Галінай, Глебавым і Рахленкам Станюта сталася "неабходнай фарбай".

-- Тое, што бачым у жыцці, гэта ж нашы колеры, нашы фарбы, якія з радасцю вяртаем гледачам. А радасць знаходзім у працы. Трэба толькі не апускаць рукі, калі няма новых роляў. Працаваць, шукаць, чакаць і збіраць сілы для будучай работы. Знаходзіць радасць і ў эпізодах.

Эпізоды іграць я не баюся і не адмаўляюся ад іх ні ў тэатры, ні ў кіно. Мяне з юнацтва вучылі адносіцца да кожнай ролі як да апошняй і самай галоўнай у жыцці. І пасля кожнай, няхай маленькай ролі, застаюцца ў памяці дэталі-асколачкі. І бываюць яны розныя: і горкія, і радасныя, і нечакана каштоўныя.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

**Бенефіс народнай артысткі Стэфаніі Станюты, прысвечаны 75-годдзю яе сцэнічнай дзейнасці, адбыўся ў тэатры імя Янкі Купалы. Вядомая беларуская артыстка выступіла ў галоўнай ролі ў спектаклі "Гаральд і Мод".**

**НА ЗДЫМКУ: кветкі і любоў -- Стэфаніі СТАНЮЦЕ.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ГОНКІ*

## ЛІДЗІРУЕ КЕБІЧ

Мінская абласная камісія па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь падвяла вынікі першага этапу выбарчай гонкі. Пасля кантрольнага "прасейвання" падпісных лістоў тройку лідэраў склалі Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч (59.092 подпісы), лідэр камуністаў рэспублікі Васіль Новікаў (39.305) і старшыня Беларускага народнага фронта Зянон Пазьняк (23.955). За імі ідуць Генадзь Карпенка, у якога засталося 17.579 подпісаў, Аляксандр Дубко -- 14.110, Станіслаў Шушкевіч -- 13.525, замыкае "выдатную сямёрку" Аляксандр Лукашэнка, у арсенале якога на Міншчыне 10.522 галасы.

## КАЛІ НЯМА ЗГОДЫ

Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў інфармацыйнай службе Партыі народнай згоды (ПНЗ), яшчэ тры дэпутаты -- Барыс Савіцкі, Уладзімір Валчэцкі, Аляксандр Спіглазаў -- звярнуліся з заявай у Цэнтральную камісію аб адкліканні сваіх галасоў, аддадзеных за прэтэндэнта ў кандыдаты на прэзідэнцкую пасаду Генадзя Карпенку. Як вядома, 16 мая лідэр фракцыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады ў беларускім парламенце аб'явіў аб тым, што 9 дэпутатаў ад фракцыі адклікаюць свае подпісы. Такім чынам, у Генадзя Карпенкі на сённяшні дзень застаецца 65--66 галасоў дэпутатаў. ПНЗ стала вядома, што ў ходзе праверкі спіса выбаршчыкаў Фрунзенскага раёна горада Мінска прызнана несапраўднымі каля чатырох тысяч подпісаў выбаршчыкаў. Усяго ініцыятыўная група Генадзя Карпенкі сабрала 110 тысяч подпісаў грамадзян.

*У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКУ*

## "ЗАЯЦ" УЗАКОНЕНЫ

Нацыянальны банк Беларусі пастанавіў: да фактычнага аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расійскай Федэрацыі лічыць адзіным плацежным сродкам Рэспублікі Беларусь беларускі рубель, а ў наяўным абароце -- разліковы білет Нацыянальнага банка, намінальнае выражэнне якога роўна 10 беларускім безнаяўным рублям. Усе разлікі на тэрыторыі Беларусі ажыццяўляюцца ў беларускіх рублях.

Будзе ўстаноўлены афіцыйны курс беларускага рубля ў адносінах да расійскага.

*З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ*

## СТАНІСЛАЎ БАГДАНКЕВІЧ РАСКРЫВАЕ КАРТЫ

"Я, як сумленны чалавек і эканаміст, не магу замоўчваць тыя адмоўныя вынікі, якія прынясе нам аб'яднанне ў апошнім яго варыянце, -- сказаў Станіслаў Багданкевіч, старшыня Нацыянальнага банка Беларусі на праведзенай ім прэс-канферэнцыі для журналістаў. -- Таму што важнейшыя элементы эканамічнай праграмы -- падатковая і бюджэтная, а таксама крэдытна-эмісійная і валютна-грашовая палітыкі будуць зацвярджацца вышэйшымі заканадаўчымі органамі замежнай дзяржавы, у якіх няма прадстаўнікоў Беларусі. На рэспубліку будуць аўтаматычна распаўсюджвацца заканадаўчыя і нарматыўныя акты, што ўстанаўліваюцца органамі Расіі. Гэта зробіць немагчымым выкарыстаць эмісію ў выпадку ўзнікнення сацыяльнага крызісу".

"Пад цяперашнім варыянтам пагаднення я не пастаўлю свой подпіс, -- заявіў С. Багданкевіч. -- Выхад адзін: трэба прызнаць рэальнасць, умацоўваць уласную валюту, праводзіць жорсткую грашова-крэдытную палітыку ўнутры рэспублікі і спрабаваць далей, не здаючы пазіцый і абараняючы ўласную эканоміку, ствараць агульную валюту. Сёння з дня ў дзень паўтараюць, што ўсе праблемы -- ад таго, што парушыліся гаспадарчыя сувязі. Гэта няпраўда. Галоўная прычына -- зніжэнне плацежаздольнасці пакупнікоў. На сёння 60 працэнтаў абаротных капіталаў у народнай гаспадарцы замарожаны ў гатовай прадукцыі і не знаходзяць збыту. І пасля аб'яднання ў нас грошай не прыбавіцца, таму што ў расіян такія ж праблемы -- не хапае грошай, і, як вынік, няма актыўнага попыту. Дарэчы, крэдыт у 200 мільярдаў расійскіх рублёў, які быў нам абяцаны Масквой і ўнесены ў Дагавор, Беларусь да сёння не атрымала. Мы спадзяёмся, што ў бліжэйшы час нам дадуць хаця б 50--70 мільярдаў".

* * *

У сувязі з нядаўна прынятай пастановай Нацыянальнага банка "Аб плацежным сродку Рэспублікі Беларусь" старшыня праўлення НБ Станіслаў Багданкевіч быў запрошаны на Прэзідыум Вярхоўнага Савета, дзе ў яго папрасілі пэўных тлумачэнняў.

* * *

Як паведаміла агенцтва БелаПАН, палітычная партыя Славянскі Сабор "Белая Русь" запатрабавала ад Вярхоўнага Савета рэспублікі вызваліць ад займаемай пасады старшыню Нацыянальнага банка Беларусі Станіслава Багданкевіча, "вінаватага ў глыбокім крызісе фінансавай сістэмы". У віну Багданкевічу Славянскі Сабор ставіць таксама наданне беларускаму рублю статуса адзінага плацежнага сродку на тэрыторыі рэспублікі, чым Нацбанк быццам бы імкнецца выклікаць негатыўную рэакцыю з боку Расіі.

*МІЛАСЭРНАСЦЬ*



Свой дом атрымалі нядаўна гомельскія дзеці-сіроты. Пабудаваць яго дапамог гарадскому савету завод "Крышталь", аб'яднанне "Гомельдрэў". Тут усё прадумана так, каб дзеці адчувалі сябе, як у хатняй абстаноўцы. Зручная мэбля, канапы, дываны. Ёсць тут невялікія спальні, сталовая, пакоі для гульняў. Самае прыкрае -- ва ўсіх выхаванцаў гомельскага дзіцячага дома ёсць таты і мамы, але ўсе яны па розных прычынах пазбаўлены бацькоўскіх правоў. Вось і клапоцяцца аб дзецях выхавацелі, чулыя і руплівыя людзі, якія не адзін год працуюць у такіх установах.

НА ЗДЫМКУ: выхавацельніца Жанна ПАЛІВОДА са сваімі выхаванцамі.

*ПАВАРОТ СПІНАЙ*

## ФОНД СОРАСА І БЕЛАРУСКІЯ РЭФОРМЫ

"Я не бачу ніякіх адзнак эканамічных рэформаў, -- заявіў вядомы мільярдэр Джордж Сорас на прэс-канферэнцыі ў Мінску. -- Калі я быў у вас паўтара года назад, у мяне склалася ўражанне, што сітуацыя ў вас лепшая, чым у Расіі, зараз вы гэтую перавагу страцілі".

Сказаў ён гэта пасля таго, як прэм'ер-міністр В.Кебіч не выказаў жадання сустрэцца з вядомым амерыканскім мецэнатам.

Сорас, які хоча дапамагчы Беларусі стварыць адкрытае грамадства, не ўбачыў такога жадання ў нас. І таму прыняў рашэнне скараціць фінансаванне некаторых праграм, якія "Фонд Сораса -- Беларусь" разгарнуў у нашай рэспубліцы.

*МАСКІ*

## ТО Ў МАСКВУ, ТО Ў СВЯТЫ МАНАСТЫР

20 мая Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч паломнікам наведаў Свята-Успенскі манастыр, дзе прыняў удзел у святкаванні 500-годдзя з'яўлення Жыровіцкай Іконы Божай Маці і 520-годдзя з дня заснавання мясцовага манастыра. Звяртаючыся да прысутных, прэм'ер-міністр падкрэсліў важную ролю царквы ў выхаванні духоўнасці і нацыянальнай самасвядомасці.

Кіраўнік урада наведаў мясцовую праваслаўную духоўную семінарыю, азнаёміўся з умовамі жыцця і вучобы семінарыстаў. Паспяховай назваў Вячаслаў Кебіч і праведзеную напярэдадні сваю паездку ў Маскву, дзе вёў размову аб маючым адбыцца аб'яднанні грашовых сістэм.

*ПАРАДОКСЫ СУВЕРЭНІТЭТУ*

## ФІЛІЯЛ РАСІЙСКАЙ АН

К канцу 1994 года ў рэспубліцы мяркуецца стварыць беларускі філіял Расійскай акадэміі навук, штат навуковых супрацоўнікаў якога будзе ўкамплектаваны... беларускімі вучонымі. На пасаду прэзідэнта новай арганізацыі вылучана кандыдатура рэктара Беларускага універсітэта, вучонага-хіміка Фёдара Капуцкага. "Беларускія мазгі -- на службу расійскай навуцы" -- відавочна, такой будзе стратэгія "філіяла", штаб-кватэра якога размесціцца ў Мінску.

*АБАРОНА ГОДНАСЦІ*

## ДАНІЛАЎ І "СВАБОДА"

Народны суд Ленінскага раёна Мінска, разгледзеўшы на адкрытым судовым пасяджэнні справу па іску ўрадавага сакратара Генадзя Данілава, прызнаў неадпавядаючымі рэчаіснасці знеслаўляючыя гонар і годнасць істца звесткі, выкладзеныя Камілай Малевіч па радыёстанцыі "Свабода" ў выступленні аб карупцыі ў вышэйшых службовых эшалонах выканаўчай улады Беларусі, што было перададзена ў лютым 1992 года.

Гэта ўжо не першы працэс паісках да некаторых сродкаў масавай інфармацыі, выйграны Г.Данілавым. Яго асоба становіцца папулярнай менавіта па судовай цяганіне.

*У ЛЮСТЭРКУ СТАТЫСТЫКІ*

## ЯК ЖЫВЕ МОЛАДЗЬ

Даследаванні брэсцкіх сацыёлагаў паказалі, што толькі 9,6 працэнта прадстаўнікоў моладзі вобласці задаволены сваім матэрыяльным становішчам, большая ж частка -- 30,7 -- ацаніла яго як вельмі нізкае.

За кошт заработнай платы жыве большасць рэспандэнтаў, 47,7 працэнта -- атрымліваюць дапамогу ад бацькоў і сваякоў. Кожны трэці мае дадатковыя сродкі да існавання за кошт падпрацовак і заняткаў камерцыяй. 35,5 працэнта інтэрв'юераў жадалі б стаць бізнесменамі, якія дасягнулі вялікага поспеху, 40,1 працэнта -- хочуць папрацаваць за мяжой.

*СТЫХІЯ*

## АД БРЭСТА ДА БАРАНАВІЧ

У ноч з 17 на 18 мая над Брэстчынай пранёсся ўраган, нарабіўшы бяды не толькі ў Брэсце, але і ў шэрагу раёнаў вобласці. Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў штабе грамадзянскай абароны, ад шквальнага ветру, скорасць якога дасягала 25 метраў у секунду, пацярпелі вёскі Брэсцкага, Кобрынскага, Жабінкаўскага, Пружанскага, Івацэвіцкага і некаторых іншых раёнаў. Раз'юшаная стыхія пашкодзіла 21 лінію электраперадачы, вывела са строю 424 падстанцыі. Без электраэнергіі засталіся 130 населеных пунктаў, 20 калгасаў, 40 малочна-таварных фермаў. Акрамя вывернутых з карэннем дрэў, завалаў на дарогах, пашкоджаны дахі многіх сельскіх дамоў, гаспадарчыя пабудовы ў калгасах. На шчасце, чалавечых ахвяр не было.

*У ЛАБАРАТОРЫЯХ ВУЧОНЫХ*



Шэсць найбольш важных прамысловых відаў рыбы -- акунь, карась, шчупак, лешч, судак, плотка -- знаходзяцца пад пастаянным кантролем навуковых супрацоўнікаў групы гідраманіторынга Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Бо тэрыторыя яго размешчана ў поўнасцю адселенай зоне пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы раёнаў Гомельшчыны.

Пастянна, два разы ў месяц, робіцца адлоў рыбы як у рацэ Прыпяць, так і ў стаячых вадаёмах, вядуцца даследаванні на ўтрыманне радыенуклідаў у розных органах. На падставе аналізаў складаюцца справаздачы аб стане забруджання рыбнай прадукцыі цэзіем, стронцыем, а неўзабаве будуць арганізаваны даследаванні і на ўтрыманне плутонія. Метадычныя ўказанні паступаюць потым на харчовыя прадпрыемствы, выкарыстоўваюцца насельніцтвам.

НА ЗДЫМКУ: вядучы навуковы супрацоўнік групы гідраманіторынга Марыя КОСЫР і старшы лабарант Юрый ГУШЧАНКА за падрыхтоўкай рыбы для лабараторных даследаванняў.

# УСЁ ПАВІННА РАБІЦЦА ПАД СЦЯГАМ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ

[Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.].

-- Так, Акадэмія навук бюджэтная арганізацыя, хаця мы зарабляем грошы асобнымі прыкладнымі распрацоўкамі, іх укараненнем у вытворчасць, але гэтага не хапае, і галоўная крыніца фінансавання навукі, безумоўна, бюджэт. Разам з тым бясконца павялічваецца плата за ацяпленне, электрычнасць, ваду, памяшканне, з нас бяруцца поўнай мерай падаткі: за зямлю, маёмасць, "чарнобыльскі" і г.д. Апошняе з'яўляецца наогул недарэчнасцю: грошы без усялякага станоўчага эфекту з адной дзяржаўнай кішэні перакладаюцца ў другую. З той сумы, што нам выдаткоўвае дзяржава, сёння 79 працэнтаў ідзе на заработную плату, астатняе -- на падаткі і аплату розных камунальных рахункаў. А на пакупку абсталявання, арганізацыю навуковых экспедыцый, камандзіроўкі, на транспарт -- грошай не хапае, няма, дарэчы, і сыравіны, якая неабходна для многіх даследаванняў.

Людзей жа адправілі ў водпуск таму, што зараз нават і заработную плату няма чым плаціць. Найперш пайшлі на два тыдні без утрымання прэзідыум, кіраўніцтва. А інстытутам мы сказалі так: калі ў вас ёсць грошы -- працуйце, а калі няма -- прыйдзецца таксама спыніцца. Гэта ўсё вельмі сумна, бо такі вымушаны адпачынак -- скрытая форма беспрацоўя.

Але ўсё тое, што адбылося, з'ява заканамерная. Ёсць паняцце навукаёмістасць нацыянальнага даходу. Яно абазначае, колькі працэнтаў ад дзяржбюджэту ідзе на навуку. У 1990-м годзе гэта было 3,9 працэнта, у 92-м ужо 1,1, а сёлета запланавана 0,89 працэнта. На ўсю навуку! Ад вызначанай сумы большая частка выдаткоўваецца на прыкладныя даследаванні, а фундаментальнай навуцы застаецца наогул мізэрная частка. Цяпер навуцы дастаюцца фінансавыя крошкі паўсюль у краінах СНД, але ў нас, бадай, меней усяго.

**-- Цяжка сёння ўсім, але інтэлігенцыі -- навуковай, культурнай -- удвая. Для большасці яе прадстаўнікоў ісці нечым прытаргоўваць, каб выжыць, справа непрымальная. Хаця ведаю людзей, якія, прабачце, плюнулі на распачатыя ўжо кандыдацкія, а то і доктарскія дысертацыі і шукаюць магчымасці падзарабіць недзе на старане. Асуджаць іх таксама язык не павернецца. Што вам больш падыходзіць: сцяўшы зубы, чакаць лепшых часоў, ці, схаваўшы ў стол рукапісы, даследаванні, заняцца чымсьці іншым, а потым зноў вярнуцца да навукі? Дарэчы, ці магчыма апошняе?**

-- Наогул у Беларусі колькасць людзей, занятых у сферы навукі, скарацілася напалову. Калі ў нас раней было прыблізна іх сто тысяч, то зараз засталося толькі пяцьдзесят тысяч. Але так атрымалася ў значнай ступені таму, што ў Беларусі існавала шмат навуковых, даследчых інстытутаў саюзнага падпарадкавання і, галоўным чынам, ваенна-прамысловага накірунку. Пасля знікнення СССР яны страцілі заказы і вымушаны былі, дзе спыніць сваю дзейнасць, дзе значна скараціць кадры.

Але і Акадэмія навук за апошнія гады страціла досыць многа людзей, прыблізна чвэрць: з 17 тысяч засталося 12. У большасці пайшоў ад нас інжынерны састаў, лабаранцкі. Але звольнілася прыблізна 200 кандыдатаў навук, сярод якіх было нямала таленавітых маладых людзей. Яны перайшлі працаваць у асноўным у розныя камерцыйныя структуры, якія даюць магчымасць зарабляць значна больш, чым у нас.

Што тычыцца выжывання, ведаеце, навука не ў стане сабе такое дазволіць. Ёй, каб існаваць, трэба пастаянна развівацца, а не проста выжываць. Ну, а адкласці навуку ўбок на некаторы час, а потым, калі будзе лягчэй, зноў да яе вярнуцца, наогул немагчыма. На жаль, у сваёй лабараторыі я з такой пазіцыяй ужо сутыкнуўся. Хлопцы, з іх маглі б атрымацца вельмі добрыя навукоўцы, паступова змянілі навуку на камерцыю. У камерцыі таксама трэба працаваць дзень і ноч, круціцца і круціцца. І на даследаванні сіл і часу не застаецца. Сусветная ж навука так хутка развіваецца, што калі ты 2--3 гады не працаваў, то потым дагнаць страчанае вельмі і вельмі цяжка, ды і не ведаю, ці магчыма наогул. Асабліва для маладых, на якіх яшчэ дадаткова не працуе ранейшы аўтарытэт, імя. Навука сёння дасягнула такіх вяршынь, што, каб дабіцца поспеху, трэба аддавацца ёй цалкам. Я сваім маладым калегам часта кажу: не губляйце тэмп, не раскісайце. Перад намі ёсць выдатныя прыклады: і ў сярэднявеччы, і зараз. Узгадайце таго ж Мікалая Вавілава, ці майго дзядзьку Максіма Гарэцкага, якія ў турме пісалі кнігі. Сапраўдны навуковец без сваёй працы не можа жыць, у якім бы становішчы ён ні быў.

Мне наогул не падабаецца наша агульная рыса: усе мы скардзімся і скардзімся. Я лічу, што былі значна горшыя часы. А зараз усё ж можна і жыць, і працаваць.

Навуковыя кадры мы ўвогуле захавалі. Тых, хто непасрэдна займаецца навукай у акадэміі, больш за пяць тысяч чалавек. А замест 200 кандыдатаў, пра якіх я казаў, абаранілі дысертацыі новыя людзі. Колькасць дактароў навук нават павялічылася. Але прыток молодзі ў навуку значна знізіўся.

**-- А як ставяцца ў вашым навуковым асяроддзі да тых калег, хто здолеў здабыць работу за мяжой?**

-- Вы пра так званую "утечку мозгов"? Яна існуе. Па-першае, унутраная -- у камерцыю. Па-другое, за мяжу. Назаўсёды ад нас паехала не так ужо і шмат навукоўцаў. Больш тых, хто ад'язджае на нейкі тэрмін -- паўгода, год, два, у кароткія камандзіроўкі. Але гэта і някепска, таму што пасля такіх паездак у людзей прыкметна пашыраецца гарызонт навуковых поглядаў.

За апошнія гады ў нас павялічылася колькасць спецыялістаў, якія выязджаюць у замежныя камандзіроўкі, на канферэнцыі, стажыроўкі, супольныя працы, чытанне лекцый. Само грамадства стала больш адкрытым. І хаця сёння беларускія навукоўцы едуць за мяжу часцей за кошт замежных партнёраў, штогод выпраўляецца ў дарогу 800--900 чалавек, замест ранейшых 400--500. Нас сталі больш ведаць і ўбачылі, што мы не такія ўжо дурні, што і ў нас ёсць вельмі цікавыя распрацоўкі. Замежная навуковая супольнасць імкнецца звабіць нашых спецыялістаў, каб папрацаваць разам. Тут, безумоўна, ёсць для нас інтэлектуальная згуба, але ў рэшце рэшт усё акупляецца.

**-- Такія замежныя паездкі неяк плануюцца кіраўніцтвам акадэміі, ці іх "прабіваюць" самі кандыдаты на паездку?**

-- Па-рознаму бывае. Частку з іх мы плануем, калі заключаем пагадненні аб супрацоўніцтве, навуковым абмене. Ёсць такія дагаворы з Кітаем, Англіяй, Германіяй, Польшчай, Індыяй, Егіптам. Якраз з такой мэтай на наступным тыдні еду ў Акадэмію навук Славакіі. Але хапае і няпланавых паездак. Многіх вучоных запрашаюць персанальна.

**-- Аснова навукі, яе развіцця -- фундаментальныя даследаванні. Але яны вымагаюць шмат грошай, часу, а імгненнай аддачы не даюць. Як сёння ідуць справы з фундаментальнымі даследаваннямі? Магчыма ўсе ўжо перайшлі да прыкладных работ?**

-- Я ўжо казаў, што зарабіць пэўныя грошы мы можам: у фізіка-тэхнічных галінах, хіміі, энергетыцы, геалогіі. Спецыяльна выдалі некалькі кніжак, дзе пералічаны нашы распрацоўкі, распаўсюдзілі гэтыя кнігі ў розных ведамствах, якія потым заключаюць з намі дагаворы. І фундаментальныя навукі не так ўжо ў нас і "паляцелі". Фундаментальныя навукі -- наша галоўная мэта. А наогул я лічу падзел навукі на фундаментальную і прыкладную трохі штучным. Ну, да якога раздзелу аднесці, скажам, адкрыццё кола? А космас, уран?

**-- Чым раней магла ганарыцца беларуская навука на міжнародным узроўні? Ці захаваліся гэтыя пазіцыі сёння?**

-- У нас было і ёсць чым ганарыцца. Мы маем таленавітых матэматыкаў, ёсць выдатныя распрацоўкі фізікаў, напрыклад, лазеры, оптыка, электроніка. У геалогіі ёсць цікавыя работы, у біялогіі. Тое ж можна сказаць і пра гуманітарыяў, асабліва тых, хто працуе над праблемамі беларускага мовазнаўства, літаратуразнаўства, фалькларыстыкі. А энцыклапедычныя выданні? Яны і ў колішнім Саюзе былі лепшымі. Але агульная цяжкасць усё ж стрымлівае. Каб навуковец паспяхова працаваў, ён павінен быць спакойны, непрыгнечаны. А прыгнечанасць якраз і адчуваецца. Нярэдка чалавек, каб болей зарабіць, амаль разрываецца на часткі, акрамя фундаментальнай тэмы, бярэ некалькі прыкладных. Нестабільнасць вельмі перашкаджае.

**-- Навуковыя даследаванні патрабуюць актыўнай работы ў розных бібліятэках, абмену навуковай інфармацыяй. Як я разумею, цяпер нават у Маскву ці Пецярбург з'ездзіць складана: патрэбны грошы, і не проста грошы, а рускія рублі, знайсці якія ў нас праблема. Што можна сказаць пра ўзровень навуковага абмену? Магчыма, навукоўцы, як і гаспадарнікі, таксама абвінавачваюць у "разрыве сувязей" дзяржаўны суверэнітэт, незалежнасць Беларусі?**

-- Так, усё гэта нас вельмі турбуе. Калі раней быў "железный занавес" з замежжам, то цяпер, як ні смешна, лягчэй паехаць за мяжу, чым у Расію ці на Украіну. Я раней вельмі часта наведваўся ў Маскву, а зараз -- не. Няма дзе ўзяць расійскія рублі, застаецца толькі ісці на базар выменьваць у падпольных мянял. Мы хацелі, каб дзяржава памагла, але не атрымліваецца. Тым не менш імкнемся неяк падтрымліваць сувязі. Прыязджаў з Украіны акадэмік Патон, абмяркоўвалі гэту праблему, вырашылі разам выступіць з ініцыятывай стварэння асацыяцыі Акадэмій навук былога СССР, цяперашняга СНД. І такая асацыяцыя была створана. Але, на жаль, пакуль сувязі наладжваюцца цяжка.

Самы вялікі інфармацыйны голад выклікаюць тыя абставіны, што мы не можам набыць для нашай акадэмічнай бібліятэкі ўсе патрэбныя кнігі і часопісы. У першую чаргу -- замежныя. І так цягнецца ўжо тры гады. Вось зараз быў у нас прэм'ер Вячаслаў Кебіч, шмат чаго абяцаў, але і пасля гэтага на ўсе нашыя запыты з урада ідуць толькі адмовы.

Тое-сёе нам дасылаюць па кнігаабмену, дапамагае фонд Сораса. Але ўсё гэта нібы падачкі, так сорамна прасіць, а дзецца няма куды. На жаль, такое ж становішча і з рускамоўнай літаратурай. А зайдзіце ў фірменны магазін "Акадэмкніга". Нейкімі анучамі гандлююць, жах. Там практычна няма апошніх кніг Расійскай акадэміі навук. Я па сваёй спецыяльнасці ніводнай не бачу.

Мала таго, нават на расійскія часопісы нельга падпісацца, а ў Расіі -- на нашы перыядычныя выданні.

А наконт абвінавачванняў у "разрыве сувязей". Людзі розныя ёсць. Некаторыя думаюць і так, як многія гаспадарнікі, вінавацяць ва ўсім незалежнасць Беларусі. Такое меркаванне можна пачуць нават ад некаторых акадэмікаў. Але гэта нязначная колькасць навукоўцаў.

**-- Па логіцы, у апошнія гады, калі Беларусь абвясціла незалежнай, павінен быў адбыцца калі не выбух, то, па крайняй меры, усплёск у гуманітарных навуках, звязаных з культурным адраджэннем. Ці назіраецца такая з'ява?**

-- У мяне ўражанне, што наша нацыянальнае адраджэнне ідзе больш марудна, чым хацелася б. Асабліва калі параўноўваць з адпаведнымі працэсамі ў 20-я гады. Тады ўсё адбывалася больш шпарка, шырока. Зараз усё робіцца, я б сказаў, вузкім колам людзей. Але і сучасныя выданні, зробленыя напрацоўкі -- вельмі адметныя. Яны здымаюць гістарычную зашоранасць. Ды, на жаль, усплёскам гэта не назавеш. Па-ранейшаму вельмі сумны стан з беларускай мовай. Я і ў Вярхоўным Савеце сёння казаў: пакуль начальнікі не загавораць па-беларуску, цяжка нешта патрабаваць ад народа. Падабаецца гэта ці не, а справа складваецца менавіта так. Ненармальна, што ў нас без ведання дзяржаўнай мовы можна заняць любую дзяржаўную пасаду, нават самую высокую. І гэта толькі на Беларусі. У любой еўрапейскай краіне ў падобнай сітуацыі і ў кіёск гандляваць не пусцяць. Многія кажуць -- у моўным пытанні не павінна быць прымусу. Так, увогуле ўціск недапушчальны. Але ў некаторых сітуацыях пэўныя моўныя патрабаванні павінны існаваць. Нам усім неабходна зразумець, што сучаснае адраджэнне можа стаць апошнім, калі яно не пойдзе актыўна. І пачынаць трэба з адукацыі. І яшчэ. Адраджэнне тычыцца не толькі мовы, культуры. Адраджэнне павінна быць інтэгральным, ахапіць і эканоміку, і палітыку, і свядомасць. Усё павінна рабіцца пад сцягам нацыянальнага адраджэння. Тады ў нас нешта атрымаецца.

**Гутарку вяла**
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

ДЗЕЦІ І МУЗЫКА

## СЦЕЖКАМІ ДАБРЫНІ І ПРЫГАЖОСЦІ

ЦУДОЎНАЕ заўсёды побач. Часам трэба толькі спыніцца, азірнуцца і тады, магчыма, убачыце, што гэта цудоўнае твораць вашыя ж дзеці. Недарма кажуць, што ад нараджэння ўсе дзеці даравітыя. Удвая ж пашчасціла тым, з кім побач апынуліся настаўнікі, якія нягледзячы на цяжкасці жыцця, на мізэрныя заробкі робяць сваю справу самааддана і ўводзяць дзяцей у свет сцежкамі музыкі, прыгажосці, дабрыні.

Закончыўся навучальны год. У канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі адбыўся справаздачны канцэрт музычных школ сталіцы, дзе можна было пабачыць, хто чаго варты. Распачаў канцэрт узорны хор дзіцячай мінскай музычнай школы N 2 пад кіраўніцтвам Валерыя Садовіна. Сапраўднай чысцінёй і прыгажосцю былі асветлены дзіцячыя твары падчас выступлення. За апошні год прыкметна ўзрасло выканаўчае майстэрства дзяцей. Хор выступаў у касцёле Святога Роха, браў удзел у каляднай вечарыне і ў музычным салоне. Праз некалькі дзён пасля справаздачнага канцэрта дзеці спявалі перад дэлегацыяй нямецкіх настаўнікаў з горада Гановера. Міжнародная асацыяцыя гуманітарнага супрацоўніцтва, мэта якой -- усталяванне кантактаў і прапаганда беларускай культуры, мастацтва і традыцый, ладзіць ужо другую сустрэчу гэтага калектыву з прадстаўнікамі Ніжняй Саксоніі. Яшчэ летась нашы нямецкія сябры былі так уражаны майстэрствам дзяцей і дырыжора, што сустрэча з хорам у праграме на гэты год стаяла пад N 1. Яны прывезлі і падаравалі дзецям відэастужку з запісам выступленняў хору, зробленую мінулы раз.

Выканаўчы дырэктар Асацыяцыі спадар Уладзімір Аляшкевіч расказаў мне пра цікавы леташні выпадак. Пасля першай сустрэчы да маэстра Садовіна (менавіта так яго называлі немцы) падышла спадарыня, якая не адразу нават змагла прызнацца, што працуе канцэртмайстрам у адной з нямецкіх школ. Са слязамі на вачах яна адзначыла: настолькі ўражана выканаўчым майстэрствам дзетак, што сумняваецца, ці правільна яна выбрала сваю прафесію.

Сёння імя Валерыя Садовіна вядома ў сталіцы. Ён быў адным з тых, хто прымаў удзел у стварэнні першага ў Беларусі хору хлопчыкаў пры Маладзечанскім музычным вучылішчы. Цікава, што і сёння можна пачуць па радыё запісы хору, зробленыя ў тыя далёкія шасцідзесятыя гады. У музычнай школе N 2 Валерый Садовін пачаў працаваць у 1969-м. Лёс кідаў яго ў розныя куткі і нават па-за межы рэспублікі. У 1991 годзе ён зноў вяртаецца ў гэтую ж школу на харавое аддзяленне. У калектыве ўдзельнічаюць дзеці ад 9 да 14 гадоў. Рэпертуар вельмі багаты і даволі складаны. Акрамя беларускіх народных песень і песень беларускіх кампазітараў, дзеці з вялікім зада-

[Заканчэнне на 4-й стар.].

### ЗА СМУГОЙ ДАЎНІНЫ

# СМЕРЦЬ АЛЬГЕРДА

Апоўдні коннікі былі ўжо ў Вільні. Пачуўшы на дзядзінцы тупат коней, Ульяна выглянула ў расчыненае яшчэ раніцай па просьбе мужа акно і, не стрымаўшыся, радасна выгукнула:

-- Прыехаў, сынок наш прыехаў!

-- Прыехаў, -- ціха азваўся Альгерд. -- Бяжы, скажы, каб не марудзіў... Няхай адразу ідзе, які ёсць...

Не паспела Ульяна зрабіць і двух крокаў, як бразнула клямка і ў вузкім дзвярным праёме ўзнікла зграбная фігура Ягайлы, з-за яго пляча выглядваў разгублены твар Скіргайлы.

Браты ўпалі на калені і ў адзін голас са шчырай скрухай усхліпнулі:

-- Тата!..

Сухарлявая, яшчэ моцная пяцідзесяцігадовая Ульяна дагэтуль трымалася мужна, а тут не вытрывала, уткнулася тварам у далоні і залілася слязьмі. "Не плач, матухна, не рві душу сваю, заступніца наша, -- прыглушаным голасам супакойваў княгіню айцец Лукаш, іерэй праваслаўнай царквы Прачыстай Багародзіцы, -- усе мы пад адным Богам ходзім, усё па Яго волі дзеецца". Лекар-законнік моўчкі перабіраў у куце гранёныя гарошыны ружанца. Бязгучна шаптаў пацеры.

-- Ну, годзе, годзе, -- парушыў раптоўную цішыню вялікі князь і перавёў позірк пабляклых вачэй на сыноў: -- А вы чаго ўнурыліся тварамі ў коўдру, бы шчанюкі-слепуны ў цёплае матчына чэрава... Нягожа мужчынам румзаць... Я сваё аджыў... Адно непакоіць -- як без мяне будзеце... Ці зберажаце зробленае мною... Набытае згодай і мячом...

Альгерд да таго аслабеў, што праз сілу вымаўляў кожнае слова. Ад напружання заняло дух. Ён змоўк і доўга аддыхваўся, ловячы запалым ротам свежае паветра, балазе, было адчынена акно, за якім усімі краскамі траўня бруілася ранняя ў 1377 годзе вясна на Беларусі.

Ульяна асцярожна прамакнула кужэльным ручніком з ілба і скроняў мужа буйныя кроплі халоднага поту. Альгерд нязграбна пакамечыў непаслухмянымі пальцамі мяккае палатно. На імгненне ў вачах успыхнула і адразу ж згасла, бы зорка-знічка, кволая іскрынка. Альгерд вінавата паглядзеў на жонку і аднымі кончыкамі пальцаў пагладзіў яе руку. "Марыю ўспомніў, -- штосьці падобнае на рэўнасць варухнулася ў яе грудзях. -- Госпадзі, памілуй мяне грэшную", — тут жа спахапілася Ульяна і хуценька перажагнала сябе шырокім рамейскім крыжам.

Ручнік гэты ткала княгіня віцебская Марыя, першая жонка Альгерда. Спачатку хацела пакрыць ім абраз святога Міколы, заступніка вояў і падарожнікаў, але аддала яго свайму маладому мужу. Так набожнік стаўся талісманам, які ахоўваў свайго гаспадара ва ўсіх вялікіх і малых паходах. Ульяна расправіла ручнік і павесіла яго на спінку ложка так, каб вялікі князь мог бачыць вышыты чырвонымі ніткамі надпіс: "Божа, барані людзі твая".

-- Ну, а цяпер, -- парушыў цішыню крыху адужэлы голас Альгерда, -- пакіньце нас удвух... З заступнікам маім. Усе. І ты, Юльяна...

-- Можа адпачнеш крыху? -- першым загаварыў Ягайла, калі ўсе выйшлі з павалушы. -- Пагаворым пазней...

-- Позна будзе. Душа на адной павуцінцы трымаецца. Чую: вось-вось абарвецца... Слухай і не перабівай...

Ягайла ўкленчыў каля ложка і нахіліўся да самага твару бацькі.

-- Заўтра ты возьмеш дзяржаўнае стырно ў свае рукі. Трымай яго моцна і не бойся... Нікога і нічога... Ты хлопец кемлівы і хутка зразумееш, што да чаго... Бачу, не памыліўся, прызначыўшы цябе па просьбе маткі сваім спадкаемцам. Хоць вы ўсе і выраслі пры маім стрэмені, а маці ўсё ж лепш дзяцей сваіх ведае...

Вялікі князь закашляўся і некалькі хвілін цяжка дыхаў.

-- Тата, ты летась абяцаў штосьці пра Вайдылу расказаць.

-- Пачакай, дойдзем і да яго. Найперш пра тое, што не паспеў да канца давесці... На твае плечы ўзвальваю... Тры справы павінен ты развязаць. Па-першае, хрысціць жамойтаў... Інакш спакою ад крыжакоў не будзе. Хрэст вырве зачэпку з рук шалёных сабак...

-- Кейстут збунтуецца, ён старую веру больш жыцця шануе.

-- А ты не спяшайся. Пачакай... Ды пакрыху другую справу рабі -- сваячкоў свавольных цугляй, ды так, каб піскнуць баяліся... А адступнікаў высякай пад корань... Адразу ж пасля пацвярджэння падазрэння... Будзеш марудзіць, вагацца -- сваю галаву страціш... Усё, сыне, трэба рабіць у свой час... Інакш наломіш дроў...

-- А як гэты час вызначыш, ды яшчэ загадзя, -- засумняваўся абачлівы да падазронасці Ягайла. -- У душу кожнаму не ўлезеш?

-- І не трэба. Дастаткова вушы доўгія мець... Людзей сваіх, -- растлумачыў Альгерд, убачыўшы здзіўленне на твары сына. -- Іншы міргнуць не паспее, а я ўжо ведаю, пра што брахаў учора, мёду налізаўшыся, куды ганцоў пасылаў, з кім з гасцей у каморы покутнай[1] шаптаўся... І ўсім гэтым запраўляе былы пекар...

-- Вайдыла?!

-- Ён. Усе нітачкі ў яго руках... Але пра гэта жодная[2] душа не павінна ведаць... Хацеў аддзячыць яго, ды не паспеў... Марыю ён просіць... Абяцаў я...

-- Якую Марыю?

-- Сястру тваю, сыне...

Ягайла ад нечаканасці сумеўся, уважліва зазірнуў у бацькавы вочы. Але ў іх, ужо па-старэчаму выцвілых і цьмяных, нічога падобнага на трызненне не было.

-- Ды яна рукі на сябе накладзе, калі пра такое даведаецца.

-- Не накладзе, -- супакоіў сына Альгерд. -- Яны ўжо даўно пабрацца змовіліся. Не кукаваць жа Марыі век адной, ды і Вайдыла хлопец хоць куды... Варты добрага князя... Пачакай, аддыхаюся крыху...

Альгерд заплюшчыў вочы і цяжка дыхаў, высока ўздымаючы грудзі. Адпачыўшы, папрасіў бярозавіку, лыкнуў, бы той верабей, адно што абмачыў губы:

-- Трэцяя справа -- адносіны з суседзямі... Тут усё залежыць ад абставін і тваёй сілы... Памятай: паважаюць моцнага... На войска і асабліва на віжоў[3] пенязей[4] не шкадуй... Сквапны двойчы плаціць... З суседзямі трэба па магчымасці ладзіць... Умець выкарыстоўваць супярэчнасці паміж імі... Не хапайся з гарачнасці за меч...

Ледзь чутна бразнула клямка, бязгучна адчыніліся цяжкія дубовыя дзверы, у павалушу хуценька ўбегла вялікая княгіня, спынілася ля ложка, падаткнула пад галаву падушку, пацалавала руку мужа і, не расцяўшы жалосна сціснутых губ, моўчкі выйшла. Шчырая адданасць Ульяны, яе сардэчнасць і чуласць кранулі не схільнае да празмернай сентыментальнасці сэрца старога ваеўніка, на яго твары адбілася глыбокае, шчымлівае пачуццё невымоўнай удзячнасці. Упершыню за ўсю размову назваўшы сына па імені, Альгерд з нейкай душэўнай праніклівасцю мякка сказаў:

-- Шчаслівы ўсё ж я чалавек, Якаў... Моцна мне пашанцавала з жонкамі... Абедзве жылі са мною душа ў душу... Абедзве разумніцы... Прыгажуні...

Аднак неабходна адзначыць, што і Альгерд быў добрым сямейнікам і ласкавым мужам. У адрозненне ад іншых военачальнікаў ніколі не цешыўся ў паходах з паланянкамі. Як і ўсе Гедымінавічы, ён вызначаўся асаблівай заміласванасцю да сваіх жонак, усяляк дагаджаў ім. Некалі Гедымін, бацька Альгерда, па жаданню жонкі перадаў вялікакняжацкі сталец найменш здольнаму сыну Яўнуту. Праз трыццаць два гады гісторыя з прызначэннем спадкаемцы паўтарылася -- ім стаў па просьбе Ульяны яе ўлюбёны пястун Ягайла.

-- Добра было б, -- прадоўжыў размову вялікі князь, -- знайсці ў адной з суседніх дзяржаў надзейнае апірышча... Крыжакам верыць нельга... Яны ў любы момант нож у спіну ўсадзяць... На татар пакуль можна не зважаць... Грызуцца паміж сабою... За дваццаць гадоў пасля забойства Джанібека ў Ардзе змянілася звыш дваццаці ханаў...

-- Хан Мухамед-Булак, здаецца, сядзіць трывала, -- прадэманстраваў сваю дасведчанасць Ягайла. -- Восьмы год царуе...

-- Адно званне, што хан... Там усім верхаводзіць беклярыбек[5] Мамай, зяць хана Бердыбека... Ён яшчэ зубы пакажа.. А пакуль застаюцца Польшча і Масква... З адной з іх і трэба табе неяк парадзіцца...

-- А што ўзамен даць? -- спытаўся Ягайла. -- Палякі на Падолле і Валынь квапяцца, Масква на памежныя землі вока мае. Цвер і Разань, саюзнікаў нашых верных, увесь час падбівае. Каб не Літва, ужо даўно праглынула б іх.

-- Трэба сысціся без гандлю гаспадарствам... Палец пакажаш -- усю руку адхопяць... Падачкі распальваюць апетыт... Але выйсце ёсць...

-- Якое? -- Ягайла ніяк не мог уцяміць, куды хіліць бацька.

-- Парадніцца трэба... З Людвікам Анжуйскім[6] або Дзмітрам... У абодвух нявесты растуць... Глядзі, -- папярэдзіў Альгерд, адчуўшы сумненне сына, -- інакш паміж двух агнёў круціцца будзеш...

За акном пачуўся цокат конскіх капытоў, напаўголасу хрыпла праспявала труба, потым нудна зарыпеў кадол, вялізны дубовы барабан, на які з глухім перарывістым шоргатам накручваўся таўшчэзны ланцуг, калі паднімалі кратаваную заслону ўязной брамы Вышняга замка.

-- Стрый прыехаў, -- пазнаў характэрны рык трубы Ягайла, але бацька не адазваўся. -- "Памёр!" -- палыхнула агнём у галаве, але тут жа з палёгкай уздыхнуў: пад ссохлай скурай левай скроні трапётка білася танюсенькая жылка.

Ягайла паклікаў матку. Яна схілілася над мужам і ля самага вуха спыталася, назваўшы яго сваім сямейным імем:

-- Ляксей, ці чуеш ты мяне?

Павекі Альгерда міргнулі раз, другі. У цэнтры зрэнкаў на імгненне ўспыхнула і тут жа згасла малюсенькая, бы зоркадзнічка, кропка. Бездапаможна тарганул ісясасмаглыя губы, пад навіслымі вусамі паказалася перламутравая палоска зубоў.

Адвячоркам вялікі князь страціў прытомнасць, а ноччу, перад першымі пеўнямі, як падае "Кароткі валынскі летапіс", "умрэ ў Літве князь Альгерд Гедымінавіч". Памёр вялікі ўладар магутнай дзяржавы, таленавіты военачальнік і палітык, "адзін з найвялікшых дзяржаўных дзеячаў сярэдневякоўя". Менавіта гэтак характарызуюць Альгерда даследчыкі эпохі Гедымінаў і Ягелонаў.

Той жа ночы вялікакняжацкі сталец з бацькавай волі пераняў Ягайла. Афіцыйнае ўзвядзенне на прастол, згодна з "Хронікай літоўскай і жамойцкай", адбылося крыху пазней: "Кейстут, князь жамойцкі, троцкі, гарадзенскі і падляшскі, справіўшы Альгерду, брату свайму, хаўтуры ў прысутнасці ўсіх княжат і зграмаджэнні паноў і баяраў... Ягайлу, сына Альгердава, сыноўца свайго, паднёс на Вялікае княства Літоўскае і звыклымі цырымоніямі, у шапку і ў шаты княскія з мячом убранага на пасад Віленскі пасадзіў: першым з сынамі сваімі, а потым княжаты і баяры прысягу аддалі".

Дзе і як пахавалі Альгерда, дакладна невядома. Гістарычныя крыніцы падаюць супрацьлеглыя звесткі. Па адных даных, ён перад смерцю прыняў хрысціянства і быў пахаваны ў праваслаўнай Прачысцінскай царкве, дзе павінна была знайсці апошні спачын па смерці і вялікая княгіня Ульяна. Крыжацкія летапісы сцвярджаюць, што ён быў спалены па язычніцкаму звычаю на капішчы Перуна, заснаваным яшчэ Свінтарогам, у акружанай гарамі і дрымучым лесам даліне каля ўпадзення Вілейкі ў Віллю. Трэцяя версія спалучае абедзве папярэднія: астанкі Альгерда пахаваны па праваслаўнаму абраду ў віленскай Прачысцінскай царкве, а ў даліне Свінтарога адбыліся сімвалічныя язычніцкія паховіны. У прысутнасці вялікай колькасці людзей пад іх плач і галашэнне агонь паглынуў васемнаццаць любімых коней Альгерда, яго хартоў і сокалаў, даспехі, шаблю, сагайдак, тарчу, княжацкае барвовае адзенне, асабістыя рэчы побытавага прызначэння. Прысутныя кідалі ў полымя рысіныя і мядзведжыя кіпцюры. Лічылася, што яны дапамогуць нябожчыку хутчэй узлезці на гару, дзе знаходзіцца Найвышэйшае Бажаство.

Вялікае Княства Літоўскае апынулася на парозе новай эпохі. Невядомая будучыня трывожыла княжат, баяраў, увесь люд паспаліты.

[1] Патаемная.
[2] Ніводная, ніякая.
[3] Віж — разведчык, шпіён, сышчык.
[4] Пенязь -- грашовая адзінка, роўная 1/10 гроша.
[5] Вышэйшая прыдворная пасада.
[6] Венгерскі кароль Лаяш (Людовік), у 1370–1382 гадах кароль польскі Людвік Венгерскі.

**Станіслаў ЦЯРОХІН.**

**Заканчэнне. Пачатак у № 21.**

# СЦЕЖКАМІ ДАБРЫНІ І ПРЫГАЖОСЦІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

вальненнем выконваюць духоўныя песні, творы рускіх і замежных кампазітараў, такіх, як Рахманінаў, Свірыдаў, Часнакоў, Моцарт, Шуман, Штраус, Вівальдзі, Гайдн. Трэба бачыць, як свецяцца іх вочы, як гэтыя рухавыя і гаваркія хлопчыкі і дзяўчынкі раптам заміраюць і пільна сочаць за кожным рухам рук, галавы, кожным позіркам маэстра. Марк Андрэ Шаўл, амерыканскі дырыжор, пасля таго, як пачуў хор, запрасіў яго на Міжнародны фестываль дзіцячых харавых калектываў, які адбудзецца ў маі наступнага года ў Фларэнцыі.

Падрыхтавацца да будучых выпрабаванняў пакуль што ёсць час. Для падтрымання імкнення дзіцячых душ да прыгожага, было б вельмі добра, каб хто дапамог наладзіць канцэрты хору як у Беларусі, так і за яе межамі. Ужо ёсць і спонсар, які бярэ на сябе ўсе транспартныя выдаткі.

Дарэчы, акрамя хору, школа славіцца і салістамі. У ёй вучацца некалькі лаўрэатаў рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, сярод якіх Насця Абмётка (цымбалы), Цімур Умараў (труба), а Арцём Шышкоў, вучань 4-га класа (скрыпка), на пачатку мая прывёз другую ўзнагароду з міжнароднага дзіцячага фестывалю ў Чэхіі.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**



**НА ЗДЫМКУ: хор дзіцячай музчнай школы N 2 г. Мінска.**
**Фота В. БАРАНОЎСКАГА.**

**33**

Руская армія прайшла амаль да самага краю Еўропы, аднавіла там манархічныя парадкі і вярнулася дадому разутай і раздзетай. А таму расійскі цар вымушан быў прымушаць жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага паважаць Расію не толькі з дапамогай войска, але і з дапамогай адукацыі. Сіла падмацоўвалася ідэалогіяй.

## 4.2. Школьная рэформа на Літве—Беларусі

**РОЛЯ ПОЛЬСКАЙ ПАРТЫІ.** Літоўска-беларускія землі ўвайшлі ў склад Віленскай вучэбнай акругі, папячыцелем якой стаў вядомы польскі патрыёт Адам Чартарыскі. Сваіх памочнікаў ён набраў з лепшых людзей Польшчы. Арганізацыйнымі справамі займаўся выдатны навуковец Тадэвуш Чацкі. У якасці тэарэтыка выступаў адзін з самых знакамітых людзей таго часу былы рэктар Кракаўскага універсітэта ксёндз Гуго Калантай. Прыхільнік ідэй Французскай рэвалюцыі, ён прымаў чынны ўдзел у выратаванні Рэчы Паспалітай: працаваў у Адукацыйнай Камісіі, узначальваў лібералаў на Чатырохгадовым сейме, з'яўляўся сапраўдным творцам канстытуцыі 1791 года, падтрымліваў вызваленчую вайну 1794 года. Пасля паражэння Калантай хаваецца ў Аўстрыі, дзе яго арыштоўваюць і кідаюць у турму, але па просьбе рускага ўрада вызваляюць. Гэтыя людзі вызначалі лёс школьнай рэформы на Літве--Беларусі. Яны рабілі ўсё, каб захаваць мясцовыя асветніцкія традыцыі. Таму Віленская вучэбная ак-

**34**

руга стала фактычна спадкаемцай педагагічных здабыткаў Адукацыйнай Камісіі былой Рэчы Паспалітай.

**АДБУДАВАННЕ ВІЛЕНСКАГА УНІВЕРСІТЭТА.** У 1803 годзе на аснове Віленскай езуіцкай акадэміі ствараецца універсітэт. З гэтай нагоды адбыліся ўрачыстасці. Сабраліся студэнты, шматлікія госці. У залу пасяджэнняў паважна ўвайшлі прафесары, апранутыя ў багатыя пунсовыя тогі. Шэсце завяршаў рэктар Іосіф Страйкоўскі. Побач з ім ішоў яго знакаміты папярэднік, славуты астраном Марцін Пачобут. За ім неслі пасярэбраны скіпетр -- сімвал улады і годнасці рэктара -- даўні падарунак караля Стэфана Баторыя. Гучалі адпаведныя прамовы. Пры гэтым стары прафесар Пачобут прамовіў оду на лацінскай мове. Яна была пераслана Аляксандру І, за што аўтар удастоіўся царскага падарунка -- дыямантавага пярсцёнка.

Увогуле, ва ўрадавых колах Віленскаму універсітэту надавалася вялікая ўвага. Ён стаў самай матэрыяльна забяспечанай вышэйшай навучальнай установай Расіі: атрымліваў найбольшую суму ад дзяржавы ды яшчэ распараджаўся тымі маёнткамі, якія былі ахвяраваны на ўтрыманне былой Віленскай духоўнай акадэміі. Другой асаблівасцю універсітэта з'яўлялася тое, што, акрамя чатырох факультэтаў расійскага ўзору (фізіка-матэматычнага, медыцынскага, юрыдычнага, філалагічнага), ён меў яшчэ і багаслоўскі.

Высокія прафесарскія аклады прыцягвалі ў Вільню лепшых навукоўцаў з Прусіі, Аўстрыі, Італіі, Польшчы. Прафесар Эрлангенскага

**35**

універсітэта Лангедорф узначаліў кафедру прыкладной матэматыкі, доктар права і член каралеўскай рымскай калегіі Капелі -- кафедру грамадзянскага і крымінальнага права, член каралеўскай акадэміі ў Гетынгене Гродэк -- кафедру рымскай літаратуры, венскі прафесар Франк -- кафедру медыцыны. Тут выкладалі член навуковых медыцынскіх таварыстваў у Іене, Парыжы і Лондане доктар Боякус, славуты польскі гісторык Іаахім Ляляевель. У 1807 годзе рэктарам універсітэта абіраецца вядомы польскі астраном, матэматык і філосаф Ян Сяндэцкі. У склад прафесуры ўваходзілі ўраджэнцы Літвы--Беларусі выдатныя вучоныя: філолаг Міхаіл Баброўскі, юрыст Ігнат Даніловіч, гісторык Ігнат Анацэвіч.

Універсітэт у Вільні стаў агульнапрызнаным асяродкам асветы, навукі і культуры літоўска-беларускіх і жамойцкіх зямель. Пры ім працавалі бібліятэка, музей, абсерваторыя, карцінная галерэя, клас скульптуры, школа земляробства, настаўніцкая семінарыя.

Універсітэцкі савет ажыццяўляў адміністрацыйны кантроль над усімі навучальнымі ўстановамі Віленскай вучэбнай акругі. Такі прынцып існаваў і ў Адукацыйнай Камісіі Рэчы Паспалітай, дзе школы ва ўласнай Польшчы падпарадкоўваліся Кракаўскай акадэміі, а на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага -- Віленскай акадэміі.

**АСВЕТНІЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ ЕЗУІТАЎ.** Універсітэцкі кантроль над дзейнасцю вучылішчаў пры касцёлах выклікаў незадавальненне манахаў-выкладчыкаў. Яны не пад-

**36**

трымлівалі імкненне педагагічнага начальства да пашырэння ў краі свецкай адукацыі, якая б адпавядала патрэбам сельскай гаспадаркі, гандлю, прамысловасці.

Асабліва незгаворлівымі былі езуіты, якія зберaглі на захопленых землях у 1772 годзе ўсе свае правы і маёмасць, бо, калі па загаду папы рымскага прыпынялася іх дзейнасць, гэтыя землі ўжо знаходзіліся пад уладай Кацярыны II, заступніцы езуіцкага ордэна. У 1812 годзе ім удалося дамагчыся самастойнасці. У адпаведнасці з рашэннем царскага ўрада ў Полацку была адкрыта езуіцкая акадэмія з правамі універсітэта, у тым ліку і з правам кантролю над вучылішчамі ордэна ва ўсёй Расіі. Літва--Беларусь займела дзве вышэйшыя навучальныя ўстановы. На трох факультэтах Полацкай акадэміі выкладаліся мовы і багаслоўскія навукі. Тут можна было атрымаць выдатную філалагічную адукацыю. Езуіты разгарнулі неверагодную актыўнасць. Імі зачароўвалася руская арыстакратыя, пасылала да іх на вучобу сваіх дзяцей і пераходзіла ў каталіцызм. Хутка інтэлектуальныя і месіянерскія здольнасці езуітаў былі як след ацэнены і ў Рыме, і ў Пецярбурзе. Галава каталіцкай царквы ўзнавіў езуіцкі ордэн, а рускі цар забараніў яго дзейнасць у Расіі. У 1820 годзе Полацкая акадэмія і ўсе падпарадкаваныя ёй навучальныя ўстановы былі зачынены.

**СВЕЦКІЯ ШКОЛЫ.** Сярэднія і ніжэйшыя вучэльні Віленскай навучальнай акругі будаваліся таксама на прынцыпах Адукацыйнай Камісіі. Як і ва ўсёй імперыі, тут дзейнічалі губернскія

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

**37**

гімназіі (Мінск, Віцебск, Магілёў, Слуцк, Свіслач, Гродна), павятовыя і прыходскія вучылішчы. Гімназіі Віленскай акругі, у параўнанні з рускімі, мелі больш разнабаковыя праграмы навучання. На такім жа ўзроўні знаходзілася толькі маскоўская універсітэцкая гімназія. Быў высокім і прафесіяналізм мясцовых настаўнікаў. У павятовых вучылішчах курс навучання не адрозніваўся ад гімназічнага і разлічваўся на 6 гадоў. Толькі ў гімназіях было 6 настаўнікаў, якія рабілі прыём вучняў кожны год, а ў павятовых вучылішчах працавала тры настаўнікі, якія набіралі навучэнцаў праз год. Прыходскія школы адкрываліся на кошт паноў, святароў і заможных гараджан. Свае навучальныя ўстановы мелі не толькі католікі, але і праваслаўныя, уніяты, іудзеі, пратэстанты, магаметане, стараверы. Навучанне жанчын ажыццяўлялася ў прыватных пансіёнах і пры кляштарах.

**ДАСТУПНАСЦЬ АДУКАЦЫІ.** Выгадамі рэфармаванай адукацыі карысталася пераважна шляхта. Школы для прыгонных сялян маглі сабе дазволіць толькі магнаты, схільныя да мецэнацтва. У той час сусветную вядомасць набылі бясплатныя ланкастарскія школы для бедных, у якіх выкладанне першапачатковай адукацыі і практычных навыкаў земляробства вялося па методыцы ўзаемнага навучання англійскага педагога Дж. Ланкастара. Аддаючы даніну модзе і ўсведамляючы патрэбу ў кваліфікаванай рабочай сіле, іх адкрывалі для сялян і асобныя памешчыкі Літвы--Беларусі, такія, як А.Пацей, М.Румянцаў, А.Храптовіч, Цеханавецкі.

**38**

## 4.3. Вынікі рэформы

**УЗМАЦНЕННЕ ПАЛАНІЗАЦЫІ.** На Літве--Беларусі ўзнікла лепшая ў Расіі сістэма адукацыі. Але ў руках віленскага акруговага кіраўніцтва яна стала зброяй паланізацыі літоўска-беларускай інтэлігенцыі, якая складалася з шляхты. Амаль ва ўсіх свецкіх навучальных установах выкладанне вялося на польскай мове. І толькі на ўсход ад Дняпра можна было сустрэць рускамоўныя вучылішчы, якія ўтрымлівала дзяржава. Ужыванне рускай, яўрэйскай, беларускай і іншых моў захоўвалася ў рэлігійных вучылішчах, якія вельмі цяжка паддаваліся ўліку і кантролю. Беларускія школкі зберагаліся пры уніяцкіх кляштарах манахаў-базыльян. Тым не менш валоданне польскай мовай лічылася сведчаннем культурнасці, адукаванасці, шляхетнасці. Беларуская ж заставалася мовай неафіцыйнай, хатняй, мовай штодзённага ўжытку ў асяроддзі сялян, дробнай шляхты і разначынцаў. А руская мова знаходзілася на становішчы замежнай. Віленскі губернатар у 1808 годзе скардзіўся цару, што тут рэдка можна знайсці чалавека, які б мог чытаць і пісаць па-руску.

Мяшчан Літвы--Беларусі паланізацыя захапіла нязначна, у параўнанні са шляхтай. Літоўска-беларускае сялянства ўвогуле пазбегла паланізацыі, бо навучанне для яго было практычна недасягальным. А гэта, як не парадаксальна, зберагала этнічную аснову для беларускага адраджэння. Аб стварэнні ж беларускай народнай школы не дбалі ні руская дзяржава, ні польскія патрыёты, ні паланізаваныя вярхі мяс-

**39**

цовага грамадства. Тое, што беларусы не мелі нацыянальнай школы, выбіла іх з агульнаеўрапейскага тэмпу нацыянальных кансалідацый, якія тады разгортваліся. Беларускае адраджэнне моцна марудзілася.

**УКЛАД У ПОЛЬСКАЕ АДРАДЖЭННЕ.** На Літве--Беларусі сабраліся лепшыя інтэлектуальныя і патрыятычныя сілы польскага народа, каб культурна замацаваць за сваёй айчынай літоўска-беларускія землі. Асвета зрабілася тут апошнім польскім бастыёнам, якім рускім не ўдавалася авалодаць і пасля вайны 1812 года. Не хапала працаўнікоў культуры, недаацэньвалася палітычная роля асветы. А таму проста неверагодна, што паланізацыя на Літве--Беларусі праводзілася ад імя рускага цара. Росквіт асветы ў Вільні стаў для палякаў выратавальным у іх барацьбе за нацыянальную самабытнасць і незалежнасць. Тут рыхтавалася эпоха Міцкевіча і Сыракомлі. Для Літвы--Беларусі ж гэты росквіт меў трагічнае адценне. Наша зямля губляла лепшых сыноў, якія пад уплывам усеагульнага ўздыму паланізацыі цураліся беларускасці і аддавалі свой розум і здольнасці іншай культуры, іншаму народу.

Замест уласнага адраджэння, усе свае жыццёвыя сілы нашы продкі трацілі на адраджэнне заходніх суседзяў, бо не ўсведамлялі сваёй нацыянальнай адметнасці. І хто ведае, як бы склаўся лёс палякаў, каб іх нацыянальны рух не падмацоўваўся жыццёвымі сіламі нашага народа.

**АБУДЖЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ СІЛ.** Аднак нельга сказаць, што польскія патрыёты заўсёды знаходзілі ў Літоўска-Беларускім краі без-

**40**

умоўную падтрымку. Ім доўга давялося змагацца з прафесарскай апазіцыяй Віленскага універсітэта на чале з яго першым рэктарам Страйкоўскім. Князь Чартарыскі, Калантай і Чацкі дамагаліся таго, каб склад універсітэцкіх выкладчыкаў быў пераважна польскім. Рэктар жа клапаціўся найперш аб павышэнні навуковай ролі сваёй установы. Гэта, дзякуючы яму, універсітэт набыў навукоўцаў з еўрапейскай вядомасцю. Тым больш, што тымчасная польская навука была яшчэ не ў стане даваць добра падрыхтаваную прафесуру. Калантай быў незадаволены Страйкоўскім і за тое, што ён стварыў пры універсітэце кафедру рускай мовы, а прыходскія школы Віленскай навучальнай акругі пакінуў у падпарадкаванні цэркваў, у тым ліку і праваслаўных. У непавазе да польскай мовы абвінавачваўся нават знакаміты Пачобут, ураджэнец Гродзеншчыны, які можа і не забываўся аб сваім літоўска-беларускім паходжанні. Урэшце рэшт Страйкоўскі быў адхілены ад універсітэта пад дабрапрыстойнай зачэпкай назначэння на пасаду другараднага епіскапа.

Моцную апазіцыю сустрэла польская партыя ў асобе ўніяцкага мітрапаліта Лісоўскага. Ён быў верным сынам Літвы--Беларусі і не жадаў ісці па шляху паланізацыі. У руках уніяцкай царквы былі школы, у тым ліку і беларускія. Нейкая частка ўніяцкіх святароў выяўляла мясцовы патрыятызм і незадаволенасць паланізацыяй. Каб абяззброіць апазіцыю, Чацкі выкленчыў царскі ўказ аб пераводзе ўсіх базыльянскіх школ і фундушаў у падпарадкаванне Віленскай навучальнай акругі.

*ЭНЕРГІЯ І ТАЛЕНТ Яўгена ЛЕЦКІ*

# ЗРОК ДУШЫ

НЕДЗЕ ў сярэдзіне 70-х гадоў давялося па справах жыць цэлы месяц у тымчасовым Ленінградзе (Санкт-Пецярбургу) і зноў жа ледзь не месяц -- у Маскве. І там, мабыць, упершыню адчулася выяўна, што гэта -- туга па радзіме. І зразумелася, чаму ўзнікла беларуская суполка ў тым паўночным горадзе, чаму сёння беларусы Масквы і Пецярбурга туляцца адзін да аднаго.

Я, здаецца, і самоту люблю, і адзіноту, і быў там у мяне спраўджаны духоўны інтарэс, і людзі мне сустракаліся добразычлівыя. І да культуровых стасункаў суседзяў я стаўлюся з павагай. Але -- не маё. Суседскае... І калі абвясціў Яўген Лецка пра стварэнне Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", а пазней -- пра міжнародную суполку наваградцаў, мне гэтыя намеры падаліся вельмі блізкімі. І надзвычай патрэбнай такая грамадзянская акцыя. Тым больш што заваддатарам быў мой зямляк з Наваградчыны. З прыгожай вёскі Пабрэззе. Колькі сіл было аддана на стварэнне "Бацькаўшчыны", на тое, каб наладзіць нечуваную імпрэзу -- з'езд беларусаў свету! Колькі сёння высілкаў кладзецца на ўтварэнне Наваградскай сябрыны! Колькі трэба энергіі, каб, працуючы загадчыкам рэдакцыі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", весці яшчэ і выдавецкі цэнтр "Бацькаўшчына"!

І наўрад ці ўдалося б нешта Яўгену Лецку, каб не трывалая вядомасць і грунт ведаў -- празаіка, літаратуразнаўцы, крытыка.

Аповесці "Па цаліку" і "Дарога ў два канцы", крытычныя працы пра выхаваўчую ролю літаратуры, пра Васіля Быкава, Вячаслава Адамчыка... Вяртанне з небыцця творчасці Лукаша Калюгі і Андрэя Мрыя -- падрыхтоўка тэкстаў і выдатныя літаратуразнаўча-крытычныя нарысы аб празаіках належаць Яўгену Лецку.

... Нашых беларускіх літаратараў папракаюць за іх ледзь не хваравітую прыхільнасць да родных сваіх мясцін: маўляў, бясконцыя аповяды пра свае вёсачкі, свае шляхі-дарогі, любоў сваю і пажыццёвую прыхільнасць да родных ваколіц. Увогуле-то ў кожнага народа пііты і летапісцы маюць пункт прыцягнення -- да свайго пачатку, свайго жыццёвага грунту: у якім горадку Оксфардзе, Фолкнер уводзіць у сусветную літаратуру пад назвай Ёкналатофа, якія замкі Ла Моль і Сан-Марыс дз Раманс, што дадуць права знакамітаму французу Сент-Экзюперы давесці свету: "Прыйшоў з дзяцінства, як з краіны". Ці яшчэ якія геаграфічныя пункты. У беларусаў, мабыць, гэтае вяртанне да крыніц, да вытокаў жыцця абвастраецца імкненнем сцвердзіць сябе, падтрымаць сваю нацыянальную годнасць, давесці людству пра тое, што мы, дзесяцімільённы народзе, існуем! Жывем на зямлі! Не губерня, не правінцыя ўсходніх ці заходніх суседзяў: самі, у сувязі, але і адасоблена. І маем свой уласны жыццёвы вопыт, свае паралелі і мерыдыяны, свой лёс, свае няпростыя абставіны ў быцці. І вось, калі ласка, доказы. У вобразах. У мастацкім увасабленні. У "заземленасці" на пэўным грунце.

І тут ужо вырашальным робіцца своеасаблівасць таленту. Уменне падаць характары. Валоданне мовай. Стыль. Манера пісьма. І тое самае ўменне, пра якое Ян Чачот, зноў жа наш зямляк, наваградскі, пісаў:

**Ёсць людзі, якія**
**нічога ўбачыць**
**У свеце не ўмеюць душою.**
**Што воку адчыніцца, так**
**і тлумачаць**
**Усё, нават "дзіва" любое.**
**А іншыя толькo душы**
**сваёй зрокам.**
**На свет і глядзяць мігатлівы.**
**Там бачаць, дзе пуста,**
**дзе ўсё-ўсё пад**
**змрокам,**
**І ўсюды ім мрояцца дзівы.**

Вось Яўген Лецка мае гэты зрок душы. І тым цікавая яго проза. Пра асобу на раздарожжы часу, у краіне на геаграфічных ростанях -- Беларусі, пра людзей з Богам беражонага кутка на Наваградчыне. У тых абставінах гістарычных, калі інстынкт самазахавання гаворыць герою: "Абы толькі ўдалося вылузацца, то больш ён на векі вечныя ні ў што ўвязвацца не будзе...". А сумленне і спрадвечны закон справядлівасці прымушаюць--дапамагаць, бараніць, адстойваць. За Польшчай "звязвацца" з дэфензівай, за нямецкай акупацыяй -- ратаваць нейкага армяніна -- і зноў жа сплочваць за дабрачыннасць сваю, пасля вайны -- цярпець з-за суседа, што і падчас вайны быў даносчыкам.

Гаворка тут -- пра Рыгора Травеню з аповесці "Па цаліку". Але ж праблематыка, як кажуць, ледзь не вечная ў нас, на Беларусі. Гэта і купалаўскі Мікіта Зносак, і героі Чорнага, і персанажы Гарэцкага. Як жыць у гэтым свеце, як захаваць сваю чалавечую годнасць -- у віхурных гістарычных абставінах, як усё ж мець не існаванне, а быццё: на сваёй зямлі. Пра гэта, па сутнасці, і аповесць "Дарога ў два канцы". Са сваімі калізіямі, сутычкамі характараў і роздумам пра сапраўднае, высокае, людскае.

І Яўген Лецка ўмее ўсё гэта пазначыць словамі, надаць акрасу, прымусіць факты жыцця стацца фактамі літаратурнымі. У яго адметны стыль, выдатная мова, уменне заўважыць тыя дробязі, дэталі, што робяць твор датычным да мастацтва. Яўген Лецка ўмее бачыць, чуць. Газета -- не лепшая прастора для цытавання. А ўсё ж не ўстрымаюся. "Але ж ці праўду кажуць -- вока людское дна не мае!..". "Такога, як Яцына, босага на лёд не ўзгоніш!"; "Зноў з кавалерамі праз плот зубы сушыш!" Ці ўчытайцеся, услухайцеся ў такую замалёўку: "У тую раніцу Рыгор з Яцынам прыпасвалі кароў у раўках, што падступаліся да самага жыта. Толькі бралася на дзень, і спакойнае сонца млява падымалася ў вышыню. Каровы прыпалі да травы, і дзве сцяжынкі няроўна выгіналіся ўслед за імі. Раптам каровы паднялі галовы і трывожна павялі вушамі. Мужчыны тузанулі за павады, але жывёла не перастала ўслухоўвацца ў жытняе шамаценне".

Цытаваць Лецку можна доўга. Што і рабіла ў сваю пару Алена Васілевіч, радасна вітаючы з'яўленне таленавітага празаіка. "Багацее проза, багацее..." -- так называўся яе колішні артыкул пра першую аповесць Яўгена Лецкі.

Зрок душы... ён меціць прозу, ён дае насычанасць неардынарную літаратуразнаўча-крытычным працам Яўгена Лецкі. Аналітычны позірк Яўгена Лецкі кантралюе Лецка-мастак і -- наадварот. І пануе настрой -- духаўздымны і рабочы.

Гэты настрой адчуваўся ў ім на пасяджэннях у Саюзе пісьменнікаў, падчас імпрэз "Бацькаўшчыны", тады, калі выпадкова сустракаліся ў Дамах творчасці ў Каралішчавічах ці Дубултах (як, дарэчы, іх сёння не хапае -- утульных Каралішчавічаў, нібыта створаных для роздуму Дубултаў).

У 1984 годзе ў Дубултах Яўген Лецка быў відавочна нацэлены на пэўны занятак за пісьмовым сталом, а для гармоніі духоўнай і фізічнай -- бегаў уздоўж мора: спартыўна, лёгка -- у Дзінтары. Там у яго былі сябры -- мастакі з Беларусі. З Беларусі тымчасам была ледзь не цэлая калонія пісьменнікаў у Дубултах (не памятаю, каб яшчэ калі гэтулькі збіралася).

Тая восень была цяжкая для мяне. Я толькі што пахавала маці -- і ўсе нашы беларусы спачувалі мне. Давалі ўвагі -- тактоўна, незаўважна. Асабліва Яўген Лецка і Уладзімір Машкоў, празаік, аўтар кніг для дзяцей. А мой наваградскі зямляк прапаноўваў: "Можа, дапамагчы трэба з помнікам?". Сярод яго сяброў былі і скульптары. Сам Лецка незадоўга пахаваў бацьку, і яму быў вядомы гэты скрушны клопат.

Яўген Лецка спагадлівы не толькі на гора. Гатовы парадавацца на чужую творчую ўдачу, падтрымаць, параіць. Аднойчы гэтую падтрымку адчула і я.

Мой зямляк, падобна, не ўмее быць раўнадушны і абыякавы. Умее быць палкім публіцыстам і прамоўцам. Шчыра кажучы, тут я не заўсёды яго разумела... Але... Гэта яго права і яго справа.

Галоўнае -- ён сёння ладна вядзе рэй. Спрыяючы Адраджэнню Беларусі і роднай Наваградчыны. Робіць усё дзеля выхаду ў свет кніг Міколы Ермаловіча, Уладзіміра Калесніка, Віктара Каваленкі, Вячаслава Рагойшы... Маладых літаратараў... Падтрымлівае выданні нашых землякоў з Масквы і Пецярбурга: Аляксея Каўкі, Юрыя Лабынцава, Мікалая Нікалаева... Падпісвае ў друк тое, што не мае цаны -- нашу спадчыну. Дае "зялёнае святло" згадкам, успамінам, зборнікам.

... Яўген Лецка адсвяткаваў свой паўвекавы юбілей. Адсвяткаваў -- у росквіце сіл, таленту, грамадзянскага імпэту. У нястомнай працы. Той працы, што абавязкова патрабуе зроку душы.

**Ала СЯМЁНАВА.**

* * *

Шаноўны рэдактар!

Дазвольце праз вашу газету падзякаваць усім, хто павіншаваў мяне з пяцідзесяцігоддзем, як тут, на Беларусі, так і шматлікіх маіх сяброў у далёкім і блізкім замежжы, што даведаліся пра гэта са старонак "ЛіМа". Ну і, магчыма, будуць мець цікавасць для чытачоў напісаныя з гэтай нагоды вясёлыя радкі нашых выдатных паэтаў -- Рыгора Барадуліна і Леаніда Дранько-Майсюка.

**Яўген ЛЕЦКА**

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

**Хачу я кожнаму сказаць:**
**"Сябруйце з Жэнем Лецкам,**
**Тады не толькі працаваць,**
**А нават будзеце кахаць**
**З грунтоўнасцю шляхецкай"!**

**Не па-савецку, па-шляхецку**
**люблю я шчыра Жэню Лецку.**
**Не, ён не крытык, ён -- паэт,**
**Бо ён заўсёды ля кабет.**

**Рыгор БАРАДУЛІН**

*Яўгену, Рыгораваму*
*сыну, Лецку*
*на паўстагодзьдзя*

**Лецка -- крытык, выдавец,**
**Працаўнік без нараканьняў,**
**Лецка -- незаменны спец**
**Па стварэньні згуртаваньняў.**

**Лецка сьвет абгаляпаў,**
**Стаў на землякоў багаты,**
**Ды ад вабных іншапаў**
**Да сваёй цягнула хаты.**

**Лецка -- добры бізнэсмэн**
**І ў пытаньнях прыгажосьці,**
**Не сагнуў пакуль бязьмен,**
**Важачы пудамі штосьці.**

**Прагнуць паляпшэньня ген**
**Слуцак, Полацак і Клецак.**
**Ды старайся,**
**Пан Яўген,**
**Поўных дзесяць пяцілецак!**

## АДЗЕННЕ НАШЫХ ПРОДКАЎ



**Унікальную работу, якая працягвалася некалькі гадоў, завяршылі супрацоўнікі Браслаўскага гісторыка-краязнаўчага музея разам з членамі творчай студыі "Ля возера". Тут выканана рэканструкцыя жаночых касцюмаў XI--XII стагоддзяў, а таксама касцюмаў браслаўчанкі XIX--пачатку XX стагоддзяў.**

**Гэтаму папярэднічалі даследаванні вынікаў археалагічных раскопак, праведзеных на тэрыторыі Браслаўшчыны вучонай Л. Дучыц. Вынікам іх стаў выраб эскізаў рэканструюемага адзення. Былі і свае складанасці ў вырабе касцюмаў. Напрыклад, каб надаць ім максімум дакладнасці, вырашылі шыць іх уручную, а матэрыю ткаць на кроснах. З гэтым паспяхова справілася ткачыха А. Чапулёнак. Э. Друсь і Т. Цімошкіна ўпрыгожылі касцюмы вышыўкай. Абутак жа зрабіла Л. Камінская, а галаўныя ўборы вырабіла Т. Бальс. Немагчыма пералічыць усіх, хто прымаў удзел у гэтай карпатлівай рабоце. У выніку наведвальнікі Браслаўскага музея маюць рэдкую магчымасць убачыць адзенне нашых продкаў.**

**А ў планах музея новая работа -- узнаўленне мужчынскіх старадаўніх касцюмаў.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: дзявочы касцюм XIX -- пачатку XX стагоддзяў (злева) і дзявочы касцюм XI--XII стагоддзяў дэманструюць Алена ЛЯХ і Вікторыя ПАДАЛЯН.**

**Фота аўтара.**

## ПРАБЛЕМЫ НАВУКОВАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

У пачатку мая ў Мінску адбылася Першая нацыянальная канферэнцыя "Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі", ладжаная Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны пры падтрымцы дзяржаўных органаў і навуковых установаў. У працы канферэнцыі ўзялі ўдзел 147 навукоўцаў, педагогаў ды іншых зацікаўленых спецыялістаў з розных гарадоў Беларусі, а таксама замежныя госці. Былі прадстаўлены практычна ўсе асноўныя галіны навукі, дзе цяпер адбываецца інтэнсіўны працэс тэрмінаўпарадкавання і тэрмінатворчасці.

Канферэнцыя адзначыла правамернасць і плённасць намаганняў, скіраваных на актыўнае засваенне тэрмінатворчай спадчыны 20-х гадоў, на выкарыстанне лексічных і марфалагічных сродкаў беларускай мовы ў распрацоўцы новай тэрміналогіі поруч з шырокім ужываннем замацаванай у сусветнай навуковай практыцы інтэрнацыянальнай лексікі.

Канферэнцыя даручыла рэдакцыйнай камісіі аргкамітэту абагульніць станоўчы досвед творчых калектываў у галіне навуковай тэрміналогіі дзеля шырокага азнаямлення з ім зацікаўленай навуковай і педагагічнай грамадскасці.

Канферэнцыя звярнулася да дзяржаўных органаў, навуковых і навучальных устаноў з заклікам усяляк спрыяць дзейнасці творчых калектываў, якія займаюцца распрацоўкай і ўдасканаленнем беларускай тэрміналогіі ў розных галінах навукі і тэхнікі.

Канферэнцыя лічыць неабходным зрабіць такія абмеркаванні праблемаў беларускай навуковай тэрміналогіі штогадовымі. Да Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь канферэнцыя звярнулася з просьбай паспрыяць у выданні яе матэрыялаў.

## "ПОЛАЦК-94"

Цэлы тыдзень пад купаламі канцэртнай залы старажытнага Сафійскага сабора гучала цудоўная музыка.

Тут сёмы раз праходзіў традыцыйны фестываль старажытнай і сучаснай камернай музыкі "Полацк-94". Выступалі Дзяржаўная сімфанічная капэла Расіі і яе аркестр, Маскоўскі камерны ансамбль салістаў, Полацкі камерны хор, Рэспубліканскі хор хлопчыкаў пры Беларускай акадэміі музыкі і іншыя выканаўцы.

АДКІНУЎШЫ ІДЭАЛАГІЧНЫЯ ДОГМЫ

# ПАЯДНАЦЦА: ЧАС ВЫМАГАЕ І СПРЫЯЕ

**ГУТАРКА СА СТАРШЫНЁЙ АРГКАМІТЭТА ПА ПРАВЯДЗЕННЮ НАВУКОВАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ І ФЕСТЫВАЛЮ "КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА", НАМЕСНІКАМ СТАРШЫНІ ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА" Анатолем САБАЛЕЎСКІМ**

**11--13 чэрвеня ў Мінску адбудзецца падзея, якая ў многім нагадае леташнюю -- Першы з'езд беларусаў свету. Пройдзе першае пасяджэнне абранай на ім Вялікай рады, на якое запрошаны ўсе яе замежныя сябры. Працягам пасяджэння Рады будзе вялікая навуковая і культурная імпрэза: канферэнцыя і фестываль "Культура беларускага замежжа".**

Згадваючы пра гэта, Анатоль Сабалеўскі сказаў, што яму праблемамі культуры беларускага замежжа даводзіцца займацца ўжо некалькі гадоў, вынікам чаго з'явіўся выхад дзвюх кніг і падрыхтоўка трэцяй. У нас і іншыя працуюць на гэтай дзялянцы, ды, відаць, усю работу трэба канцэнтраваць вакол "Бацькаўшчыны". Дзеля гэтага і праводзіцца навуковая канферэнцыя.

У аргкамітэт па яе правядзенні ўвайшлі вядомыя дзеячы культуры, навукоўцы, людзі творчыя як з нашага боку, так і з-за мяжы, а таксама шэраг афіцыйных арганізацый: міністэрствы культуры і друку, адукацыі, замежных спраў, Скарынаўскі цэнтр, Акадэмія навук Беларусі, Беларускі універсітэт культуры.

-- Каго мы пачуем на канферэнцыі?

-- Без перабольшання, -- лепшых спецыялістаў, навуковыя аўтарытэты як з Беларусі, так і з-за яе межаў. Дастаткова, мяркую, назваць імёны ўдзельнікаў, каб мець права сцвярджаць, што канферэнцыя будзе вельмі прадстаўнічай. З дакладамі і паведамленнямі выступяць Янка Запруднік, Вітаўт і Зора Кіпелі (ЗША), Аляксандр Баршчэўскі, Сакрат Яновіч (Польшча), Аляксей Каўка, Антон Сабалеўскі (Масква), Валянцін Грыцкевіч (Санкт-Пецярбург), Лявон Луцкевіч, Хведар Нюнька (Літва). З нашага боку далі згоду выступіць Віктар Каваленка, Барыс Сачанка, Адам Мальдзіс. А наогул запрошаны да ўдзелу ў канферэнцыі найбольш мабільныя навуковыя сілы з беларускага замежжа ў Вялікабрытаніі, Аўстраліі, Францыі, Бельгіі, Германіі.

З тых заявак, што ўжо дасланы, і з нашых папярэдніх планаў бачыцца тэматычны абсяг. Будуць узняты ці, прынамсі, закрануты праблемы ў сферы матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага замежжа, атрыманы адказы на пытанні, чаму мы яе мала ведаем і чаму так мала і слаба прапагандуецца за мяжой створанае тут, у Беларусі. Спадзяемся, што кожны ўнясе нешта канструктыўнае ў вырашэнне агульнай праблемы.

-- Што хочуць атрымаць ад канферэнцыі яе арганізатары, а прасцей -- якую мэту ставяць?

-- Для Беларусі ў савецкі час культуры беларускага замежжа проста не існавала, яна была адрынута і збэшчана камуністычнай ідэалогіяй. Сёння, калі ідзе, хаця і павольна, працэс адраджэння, нам трэба гуртавацца і паядноўваць усе сілы, асабліва творчай інтэлігенцыі, навукоўцаў. Калі нацыя пастаўлена на самавыжыванне і самасцвярджэнне, нам, можа, як ніколі, патрэбна кансалідацыя. Трэба прыспешыць працэс паяднання, для гэтага цяпер самы спрыяльны і ўдзячны час.

У будучыні мне бачыцца, што ўся культура беларускага замежжа будзе вывучана, даследавана і пастаўлена ў агульнанацыянальны кантэкст. Але гэта справа вельмі складаная і, баюся, не такая блізкая. Сёння яшчэ занадта многа белых плям, а таму трэба браць хоць асобныя з'явы, імёны і ўводзіць іх ва ўжытак. Найпершая задача -- накапленне фактаў, ведаў аб культуры беларускага замежжа. Дзякаваць Богу, цяпер мы не прывязаны да ідэалогіі. І для нас няважна, хто па які бок мяжы быў.

-- Але ж яна, ідэалогія, над намі яшчэ доўга будзе вісець, як Дамоклаў меч, перашкаджаючы ў непрадузятым, аб'ектыўным падыходзе да праблем культуры, іх ацэнцы.

-- Скажу так: мы адыходзім ад ідэалогіі, спадзеючыся, што і нашы замежныя суродзічы зробяць тое ж самае. Будзем шчырымі -- ідэалогія была і з гэтага боку, і з таго, і пераважала над ацэнкай эстэтычных, мастацкіх вартасцей. У Беларусі савецкай адмаўлялася як чужая па духу культура беларускай дыяспары. Але ж і там ідэалогія займала часам пануючае месца ў творчасці эмігранцкіх паэтаў, празаікаў, у стаўленні крытыкаў да літаратуры, напісанай у савецкія гады, у яе ацэнцы. У беларускім інтэлектуальным, творчым асяроддзі за мяжой найбольш пісалася пра тых, хто пацярпеў ад сталінскіх рэпрэсій, аналізаваліся творы, якія былі забаронены. А вось пра тых, нават вельмі годных людзей, якія выратаваліся ці пазбеглі ГУЛАГа, якія верна служылі Бацькаўшчыне, амаль што не згадваецца. Яны нібы ў цені і нават ігнаруюцца. Дык ці не час і з таго боку адкінуць ідэалагічныя догмы і прызнаць толькі мастацкія вартасці? Мы павінны ўсё ўспрымаць спакойна. Канешне, трэба аб'ектыўна сказаць, дзе, хто і кім быў, але галоўнае -- што ім створана. Бо створанае -- застаецца. Адна з мэт канферэнцыі -- мы чакаем, што не толькі культура беларускага замежжа будзе разглядацца тут як частка агульнанацыянальнай, але і дзеячы беларускага замежжа будуць шырэй прапагандаваць у сябе нашу айчынную культуру.

Давайце зробім крок насустрач адзін аднаму. Разумею, што працэс яднання, кансалідацыі сёння не такі просты. І найперш, ён складаны ў псіхалагічным плане. Але шлях гэты нам трэба прайсці, пераадолець псіхалагічныя бар'еры. Дзеля адраджэння. Узбагачаючы адзін аднаго, мы станем больш моцныя духам.

* * *

У тыя ж дні ў сталіцы Беларусі пройдзе і фестываль "Культура беларускага замежжа". Відаць, найбольш творчых калектываў і паасобных выканаўцаў прыедзе ад беларусаў Польшчы. Цікавая дэталь: запрошаны на фестываль не толькі тыя, хто за мяжой правёў цэлае жыццё ці нарадзіўся там, але і тыя, хто яшчэ зусім нядаўна хадзіў побач з намі, выступаў на нашых сцэнах. Арганізатары фестывалю хацелі б бачыць на ім і Барткевіча, і Сокалава-Воюша, і Валянціну Пархоменка з Аляксандрам Казаком. А нашы творчыя калектывы, што прымуць удзел у фестывалі, будуць выконваць творы аўтараў беларускага замежжа, і паэтычныя, і музычныя. Прагучаць мелодыі, напісаныя Равенскім і Куліковічам-Шчагловым, вершы Арсеннева і Сяднёва.

Здаецца, гэта першы крок да паяднання.

**В.КРАСЛАЎСКІ.**



**Украінскіх, малдаўскіх і, вядома ж, беларускіх слухачоў зачараваў сваім мастацтвам ансамбль "Капыльскія дудары". Спецыяльна для яго пісаў творы кампазітар Іван Кузняцоў, адзін з заснавальнікаў калектыву. Свае творы з задавальненнем перадаюць ансамблю кампазітары — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі Уладзімір Кур'ян і Віктар Войцік. Інструменты ж для самадзейнага калектыву зрабілі вядомы народны майстар Уладзімір Пузыня і канцэртмайстар ансамбля Аляксандр Еўдакімаў.**

**Зараз "Капыльскія дудары" рыхтуюцца да паездкі ў Францыю.**

**НА ЗДЫМКУ: мастацкі кіраўнік ансамбля В. МОТУС (злева), кампазітар У. КУР'ЯН і У. ПУЗЫНЯ.**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.**

# ДА "РАЗВІТАННЯ" І ПАСЛЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Помню, здымалі падзеі 20-х гадоў. На мне парваная хустка, атопкі. У час перапынку, не пераапрануўшыся, мы селі ў аўтобус, і павезлі нас у сталоўку.

Ля ўваходу сядзіць жанчына і прадае суніцы. Хачу купіць, а яна мне: "Адкуль гэта ты прыехала, такая бядота, дзе гэта такое яшчэ носяць?" Яна паверыла ў жыццёвую праўду маёй гераіні. Акцёру трэба іншы раз і так правяраць сябе -- жыццём. На здымках фільма "Трывожны месяц верасень", калі масоўку набіралі з мясцовых, бабулі касавурыліся ў мой бок: "А гэтую старую навошта прывезлі? Сваіх хапае!" Смешна і прыемна. Чулы ў нас народ, таленавіты. Многаму на здымках я навучылася: і зямлю капаць, і касіць, і каромысел насіць (Я ж сама нарадзілася ў Мінску). А людзі сочаць за табой -- і падказваюць, і вучаць.

А калі мне звоняць з нашай кінастудыі і запрашаюць прыехаць памераць касцюм, я ўжо здагадваюся, на якую ролю мяне запросяць. Пачалося гэта больш за дваццаць пяць гадоў з фільма "Зорка на спражцы" рэжысёра Віктара Турава: маці ў жалобе, у чорнай вопратцы ішла па вуліцах Мінска да помніка Перамогі. Гэта адзін варыянт. Другі -- сялянка розных часоў: у лапцях, у ботах, у дамотканым адзенні, альбо ў ватоўцы. Апошнім часам апранахі прапануюць больш сучасныя, раблюся на экране гараджанкай.

А я ўзгадваю, з якой сілай і пранікненнем у нацыянальны характар увасобіла Стэфанія Міхайлаўна Марылю ў спектаклі "Раскіданае гняздо" Я. Купалы: боль і цярплівасць, дабрыня, узнёсласць і самаахвярнасць народа. Нездарма з тае пары да Станюты ставяцца як да беларускай мадонны. Жанчынысімвала, маці, сімвала Радзімы-Беларусі. Расійскай мадоннай увайшла ў гісторыю кіно Дар'я Станюты з фільма "Развітанне".

Жыццё для яе падзяляецца: да "Развітання" і пасля.

-- Здымкі ў гэтым фільме лічу для сябе пачаткам новага, гэта такі важны, такі трапяткі перыяд у маім жыцці. Раптам запрасілі мяне на пробы на галоўную ролю. Паверылі, даверылі. Роля Дар'і -- гэта цуд, за які я ўдзячна лёсу. Мы не здымаліся, мы жылі распуцінскай Мацёрай.

Адбылося гэта амаль дзесяць гадоў таму, калі купалаўцы гастралявалі ў Львове. Пасля спектакля "Верачка" А.Макаёнка, у якім Станюта іграла бабулю, да яе падышоў невядомы малады чалавек (як потым высветлілася, рэжысёр Львоўскага тэатра Савецкай Арміі) і нечакана прамовіў: "У мяне ёсць для вас п'еса. Галоўная роля ў ёй менавіта ваша, бо гераіня -- гэта вы". Праз некалькі дзён актрыса ўпершыню прачытала п'есу "Гаральд і Мод" К.Хігінса і Ж.-К.Кар'ера.

П'еса і роля леглі на сэрца. І ўпершыню за доўгія гады працы яна прапанавала тэатру п'есу, упершыню рабіла заяўку на роль. Гэта пры тым, што сталі класікай акцёрскага майстэрства створаныя Станютай вобразы: Дуэнья ў "Дні цудоўных падманаў" Шэрыдана і Дыяна ў "Сабаку на сене", Дурніца ў "Дуры для іншых, разумнай для сябе" Лопэ дэ Вэга і Шарлота ў "Вішнёвым садзе" Чэхава, Глафіра ў "Ваўках і авечках" Астроўскага Зіна Зёлкіна ў "Хто смяецца апошнім" К.Крапівы, непаўторная Бабуля ў "Я, бабуля, Іліко і Іларыён" Н.Думбадзе. І гэта пасля таго, як ужо была і Марыля ў "Раскіданым гняздзе", і Дар'я ў "Развітанні".

-- У спектаклі "Гаральд і Мод" я іграю і нібыта наталяю смагу крынічнай вадой. Рэжысёр Мікалай Пінігін прапанаваў у ролі дзіцячасць і паэзію. А гэта мне блізка. Мод -- гэта маё вяртанне ў юнацтва, адчуванне жыцця і радасці існавання. Калі робіш на сцэне ўсё, што хочаш і ўмееш. Колькі год я марыла аб ролі, каб не было стэрэатыпаў бачанага, чутага, чытанага, каб у ёй трэба было і спяваць, і танцаваць, і жартаваць, і плакаць, і...

У чым жа сакрэт яе даўгалецця?

-- Напэўна, гены ад дзядоў і прадзедаў. Мая бабуля і тата былі доўгавекімі. Я ніколі нікому не зайздросціла і радавалася поспехам іншых. І кожны дзень кажу сабе: дзякуй за пражыты дзень, за яшчэ адзін сыграны спектакль. За тое, што я яшчэ патрэбна.

Спектакль "Гаральд і Мод" адраджае купалаўскія традыцыі, як і калісьці, глядач ідзе ў тэатр на "актрысу", на сваю "зорку". Глядзець, чуць, дыхаць побач з вялікай артысткай, якая сваім талентам сцвярджае, што жыццё -- гэта цуд!

**Нэля КРЫВАШЭЕВА.**

# ПОМНІК МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ Ў ЯРАСЛАЎЛІ

Ідэя ўстанавіць помнік у горадзе, з якім цесна звязаны лёс знакамітага беларускага песняра, узнікла яшчэ ў 1991 годзе, калі шырока адзначаўся 100-гадовы юбілей з дня нараджэння паэта. Да гарадскіх улад Яраслаўля звярнуўся Мінскі грамадска-культурны клуб "Спадчына". І калі дазвол на будаўніцтва помніка быў атрыманы, члены клуба заняліся арганізацыйным бокам справы: зборам сродкаў, распрацоўкай дакументацыі і адшуканнем месца для ўстаноўкі помніка. За аснову кампазіцыі выбралі помнік работы скульптара Сяргея Вакара, архітэктурнае рашэнне выканаў Андрэй Карпук. Спонсарамі акцыі выступілі выдавецтва "Полымя", газеты "Частный детектив", епархія Беларускай праваслаўнай царквы, фірма "Дайнова", Мінскі аўтамабільны завод.

28 мая адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка. На свята былі запрошаны міністр культуры і друку Беларусі Анатоль Бутэвіч, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, іншыя афіцыйныя і прыватныя асобы.

*З ГІСТОРЫІ ФІЛАТЭЛІІ*

# СЛАЎНЫЯ СЫНЫ БЕЛАРУСІ

Беларуская зямля выгадавала, выхавала ці проста прытуліла многіх вялікіх людзей -- воінаў, паэтаў, асветнікаў, вучоных. Сустрэча з Беларуссю, нават часовае знаходжанне на яе зямлі пакінула след ці то ў іх лёсе, ці то ў дзейнасці. Многія сыны і дочкі Беларусі звязалі сваё жыццё з іншымі краямі, і імёны іх ведае ўвесь свет.

Пра некаторых з іх расказваюць паштовыя выпускі -- маркі, канверты, штэмпелі розных краін свету. На жаль, пошта нашай рэспублікі пакуль не прысвяціла гэтым людзям ніводнай маркі. Але будзем спадзявацца, што калі-небудзь нешта ж з'явіцца.

Цяжка пералічыць галіны навукі, у якіх не сказаў сваё важкае слова Бенедыкт Дыбоўскі -- вядомы медык, заолаг, географ, лінгвіст, астраном і літаратуразнаўца. Ён ураджэнец Маладзечаншчыны, скончыў Мінскую гімназію, вучыўся ў Тартускім універсітэце, працаваў у Берліне, Вроцлаве. Быў паплечнікам К.Каліноўскага. За ўдзел у паўстанні 1863--1864 гадоў Б.Дыбоўскага прыгаварылі да пакарання смерцю цераз павешанне. Але пакаранне пад ціскам грамадскасці было заменена ссылкай у Сібір.




Гады ссылкі сталі для Дыбоўскага часам вялікай навуковай работы. Даследчык пасяліўся на беразе Байкала, першым зрабіў тэмпературны і хімічны аналіз вады возера. Пры вывучэнні Байкала і Ангары, навакольных гор і лясоў адкрыў і апісаў дзесяткі відаў прадстаўнікоў фауны, што сустракаюцца толькі ў Сібіры. Са сваіх экспедыцый у музеі Масквы, Пецярбурга, Варшавы, Кракава Дыбоўскі адправіў каля 2,5 тысячы чучалаў птушак, больш ста тысяч экземпляраў насякомых. Разам з Пржэвальскім падарожнічаў па Амуры, наведаў Уладзівасток. Працуючы ўрачом на Камчатцы, вёў барацьбу з эпідэміямі і хваробамі мясцовага насельніцтва (з праказай). Адначасова займаўся антрапалогіяй, лінгвістыкай. Пад яго рэдакцыяй выйшлі слоўнікі камчадальскай, бурацкай і іншых моў народаў, што насяляюць Сібір. У камчацкім краязнаўчым музеі да сённяшняга дня захоўваецца альбом фатаграфій, якія былі зроблены вучоным на Камчатцы ў 1883 годзе. Толькі ў 1884 годзе Б.Дыбоўскі вярнуўся ў Еўропу, стаў прафесарам Львоўскага універсітэта, членам Польскай Акадэміі навук, у 1928 годзе Дыбоўскі быў абраны членам-карэспандэнтам АН СССР.

Двойчы паштовае ведамства Польшчы -- у 1957 і 1973 гадах -- выпускала маркі, прысвечаныя Б.Дыбоўскаму. У серыі 1973 года партрэт Дыбоўскага пададзены на фоне скалістага берага возера Байкал і адбітка собаля -- тыповага прадстаўніка фауны байкальскай тайгі.

У гэтай жа польскай серыі марак ёсць мініяцюра, прысвечаная яшчэ аднаму ўраджэнцу Беларусі -- Ігнату Дамейку. На марцы партрэт вучонага на фоне чылійскага стэпу. У 1830--1831 гадах І.Дамейка ўдзельнічаў у паўстанні, пасля падаўлення якога, каб пазбегнуць рэпрэсій, вымушаны быў эмігрыраваць. У 1838 годзе быў запрошаны ў Чылі, выкладаў ва універсітэтах гарадоў Какімба і Сант'яга. Пазней стаў рэктарам дзяржаўнага універсітэта ў Сант'яга. І.Дамейку належыць адкрыццё невядомага мінерала, што складаецца з арсеніда медзі і які атрымаў імя вучонага -- дамейкіт. Адзін з відаў паўднёваамерыканскай фіялкі носіць назву -- Віола дамейкіна. Ёсць у Чылі маленькі гарадок Дамейка, паблізу ад яго былі адкрыты паклады чылійскай салетры. Пошта гарадка выкарыстоўвае штэмпелі, на якіх выгравіравана імя нашага земляка. У сталіцы Аргенціны імя Ігната Дамейкі прысвоена адной з бібліятэк. У гонар дзесяцігоддзя бібліятэкі ў чэрвені 1970 года на галоўнай пошце Буэнас-Айрэса прымяняўся спецыяльны штэмпель, у малюнку якога імя Дамейкі. А паштовае ведамства Чылі ў 1954 годзе прысвяціла нашаму земляку дзве маркі з яго партрэтам, пад якім прыведзены надпіс: "Ігнацыю Дамейка. 150 гадоў з дня нараджэння".

Мне не ўдалося ўстанавіць, хто аўтар партрэта І.Дамейкі на гэтых марках. Магчыма гэта малюнкі сучаснага чылійскага мастака, можа быць партрэт ці фатаграфія XIX стагоддзя. Цікава адзначыць, што партрэт І.Дамейкі з чылійскай маркі быў перанесены на польскі спецыяльны штэмпель. У маі 1984 года ў польскім гарадку Ходзеж праходзіла сустрэча філатэлістаўтэматыкаў. Гэтая падзея і была адзначана спецыяльным гашэннем штэмпелем з адлюстраваннем І.Дамейкі.

Ёсць маркі на беларускую тэму і ў Балгарыі. На адной з марак гэтай краіны змешчана рэпрадукцыя карціны балгарскага мастака Д.Цюджэнава "Генерал Гурко ў вызваленай Сафіі". Марка гэтая, як і карціна, прысвечана расійскаму генерал-фельдмаршалу І.Гурко, ураджэнцу Магілёўшчыны, выхадцу са старажытнага беларускага дваранскага роду Рамейка-Гурко. Генерал І.Гурко праявіў сябе таленавітым военачальнікам у час руска-турэцкай вайны 1877--1878 гадоў. У снежні 1877 года атрад пад камандаваннем І.Гурко здзейсніў цяжкі пераход цераз Балканы, што лічыліся недаступнымі ў зімовых умовах, разбіў турэцкія войскі і ўзяў Сафію.

У 1879--1880 гады І.Гурко -- памочнік галоўнакамандуючага войскамі гвардыі і Пецярбургскай ваеннай акругі, у 1882--1883 гады -- генерал-губернатар Адэсы, у 1883--1894 -- генерал-губернатар Прывісленскага краю і камандуючы войскамі Варшаўскай ваеннай акругі. У 1894 годзе генералу І.Гурко прысвойваецца званне генерал-фельдмаршала.

**Леў КОЛАСАЎ.**

*З НОВЫХ ПЕСЕНЬ*

Словы І. ЦІТАЎЦА — Музыка М. СЛІЗКАГА

## КАЛІНА




За хатай, за тынам
Буяла каліна.
Духмяныя кветкі
Збірала дзяўчына.

Вяночкі сплятала,
Пялёсткі зрывала,
Аб тым варажыла,
Каго пакахала.

На сэрцайку згода --
І мар карагоды.
Яго я чакала
Душы асалоду.

Як любы прыкрочыць,
Паглядзіць у вочы
Агеньчык успыхваў
У сэрцы дзявочым.

Цвяты і арэлі
Прайшлі, адшумелі
Гады маладыя
Як сон адляцелі.

І толькі за тынам
Квітнее каліна,
Душу бударажыць
Цяплом успамінаў.

*СПОРТ*

ФУТБОЛ. Алімпійская зборная Рэспублікі Беларусь у таварыскай сустрэчы з камандай Украіны перамагла з лікам 2:0.

ХАКЕЙ. Чэмпіёнам Беларусі датэрмінова стала каманда мінскага "Цівалі". Другое месца ў гродзенскага "Нёмана", трэцяе ў наваполацкага "Хіміка". У жніўні "Цівалі" правядзе паўфінальныя гульні на Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў.

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. Мінчанка Наталля ШЫКАЛЕНКА выйграла спаборніцтва па кіданню кап'я на буйным міжнародным турніры ў Сан-Паўлу. Яе вынік 67 метраў 10 сантыметраў. Нагадаем, што нядаўна яна паслала кап'ё на паўтара метра далей. Гэта адбылося на розыгрышы Кубка Беларусі.

СПАРТЫЎНАЯ ГІМНАСТЫКА. У ЗША адбыўся матч паміж зборнымі гаспадароў, Кітая і Беларусі. Першае месца сярод мужчын у асабістым заліку заняў чэмпіён свету мінчанін Іван Іванкоў.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**ГУЛЕВИЧ Франц Александрович**, 1926 года рождения, из деревни Рудня-Столбунская Ветковского района после смерти матери находился в детском доме Гомеля вместе со своими сестрами **Марией, Аней, Полей** и **Галей**. Потом связь его с родными была потеряна.

Недавно родные узнали, что **Франц ГУЛЕВИЧ** живет в США. Точный адрес неизвестен. Сестра **Мария КОНОЙКО (Гулевич)** просит **Франца Александровича Гулевича** откликнуться и написать по адресу:

**Республика Беларусь, 220030, г. Минск, ул. Ленина, д. 3, кв. 55. КОНОЙКО Марии Александровне (тел. 27-18-48).**



**Лясное возера.** **Фота В. НІКАЛАЕВА.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 759. Падпісана да друку 30. 5.1994 г.